# Зьмест.

Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# ПЛУГ

Месячная навукова-популярная сельска-гаспадарчая часопісь.



II год выданьня | Сакавік 1926 г. | № 3

## У якім кірунку праводзіць працу па пасеўнай кампаніі.

Цяпер, калі наша сельская гаспадарка дасягнула ўжо даваеннага роўню, галоўным заданьнем зьяўляецца разгортваньне працы па арганізацыі культурнага (я разумею інэнсыўнага) і коопэраванага земляробства. Гэта заданьне павінна стаць асноўным лёзунгам нашай працы ў надыходзячую пасеўную кампанію. Пад гэтым лёзунгам тысячы сялянскіх гаспадарак пры дапамозе савецкіх і партыйных устаноў і пад кіраўніцтвам спэцыялістых пачнуць будаваць падставы інтэнсыўнага (больш даходнага) земляробства.

Земляробства ў Беларусі і раней ішло па шляху інтэнсыфікацыі, але ў сваім разьвіцьці яно ніколі не ахоплівала такіх вялікіх абшараў, як у апошнія гады. А гэта лішні яшчэ раз даводзіць, што савецкае законадаўства і экономічная політыка ствараюць лепшыя ўмовы для гаспадарчага росту вёскі, чым гэта было ў стары час. Культурнае-ж і коопэраванае земляробства зьявіцца падставай і для пабудовы і замацаваньня соцыялістычных формаў гаспадаркі ў вёсцы.

Але слабая коопэраванасьць сялянскай гаспадаркі і нязначная сувязь яе з крэдытам і гандлёвай коопэрацыяй усю перабудову сялянскай гаспадаркі на новы лад робіць надзвычайна цяжкім заданьнем. Гэта зьявішча патрабуе асаблівай увагі і сур'ёзнай працы з боку мясцовых устаноў і грамадзкіх організацый.

*Організацыю інтэнсыўнай гаспадаркі* мы пачынаем з пераходу гаспадарак на шматпольле (у гэтым годзе шматпольныя севазвароты будуць закладзены на плошчы 155.000 дзес.). Побач з пераходам на шматпольле праводзіцца і земляўпарадкаваньне, інакш кажучы земляўпарадкаваньне ў нас зьвязана з агрономічнай працай. Усю гэту працу на мясцох трэба зьвязаць з сялянскай гаспадаркай, дапамагаючы ёй здабыць насеньне, кармовыя травы, угнаеньні, дастаць крэдыт і г. д.

*Сельска-гаспадарчыя машыны і прылады* патрэбны сялянскай гаспадарцы ў першаю чаргу. Іх дастае для вёскі Цэнтраземсклад, с.-г. коопэрацыя і с.-г. банк (крэдытам). Меркавалася агульным плянам у гэтым годзе загатаваць машын на 2.304.485 руб., а загатавана на 2.551.872 руб.; але з прычыны затрыманьня некаторых замежных заказаў на машыны гэты плян будзе выпаўнены толькі на 74 проц.

Насеньня кармовых траў па пляну меркавалася купіць на 404.540 руб., насеньня караньплодаў і гародніны на 78.000 руб. Закупка гэтага насеньня пакуль што праведзена толькі на 50 проц.

*Закупка мінэральных угнаеньняў* выпаўнена звыш 100 проц. (на 327.217 руб. замест 294 тыс. руб.). Але прымаючы пад увагу попыт

сялян на мінэральныя ўгнаеньні ўвосень мінулага году, гэту лічбу патрэбна было-б падвоіць.

*Горш стаіць справа з крэдытаваньнем сялянскіх гаспадарак.* Той крэдыт, які прызначаўся на гэта раней, значна скарочаны. Замест 1.710.000 руб. прызначаецца цяпер толькі 655.000 руб. (на куплю насеньня, рабочай жывёлы, машын, угнаеньняў, малочную і племянную справу). Загэтым крэдыт будзе выдавацца маламоцным і серадняцкім гаспадаркам і зусім ня будуць крэдытавацца заможныя гаспадаркі.

Апрача гэтага крэдыту дзяржавай прызначана 100.000 руб. на арганізацыю натуральнага насеннага фонду пры сялянскіх камітэтах узаемадапамогі (60.000 пуд. аўса і ячменю), каб гэтым стварыць надалей насенны фонд камітэтаў.

Мы лічым, што ўся дзяржаўная дапамога (насеньне, угнаеньні, машыны, крэдыт) павінна быць згрупавана ў першаю чаргу для беднаты, якая надзяляецца зямлёю або для гаспадарак, дзе праводзіцца земляўпарадкаваньне ці пераход на шматпольле. Такія гаспадаркі павінны быць на вучоце ў кожным раёне і плян дапамогі ім павінен быць праведзены праз раённы ВК і с.-г. савет; пры гэтым праца павінна праводзіцца і сярод усіх іншых сялянскіх гаспадарак.

Нельга ніводнай мінуты забываць мажлівасьці скарыстаньня пасеўнай кампаніі для коопэраваньня сялян. Памойму гэта найлепшы момант, бо калі прыглядзецца да патрэб сялянскай гаспадаркі, то мы бачым, што ў іх часта бывае нястача сартовага насеньня, насеньня канюшыны, цімафейкі, лубіну; або большасьць сялянскіх гаспадарак ня можа карыстацца такімі машынамі, як трыер, сартоўка, малатарня ці ня мае машын па перапрацоўцы малака, лёну, садовіны і г. д. А між тым, усе сялянскія гаспадаркі пасёлка могуць паставіць справу так, што яны будуць мець сартовае насеньне, насеньне траў праз насенныя таварыствы. На гэту справу яны могуць мець крэдыт і г. д.

Падругое, калі арганізаваць машыннае таварыства, то кожная гаспадарка зможа карыстацца любой машынай, як трыер, малатарня, сяўнікі і г. д. Нагрузку гэтым машынам могуць даць толькі некалькі сялянскіх гаспадарак.

У палепшаньні жывёлы сялянам патрэбны завадзкія вытворнікі (бык, жарабок). А іх можна набыць толькі некалькім гаспадаром пасьля арганізацыі ў таварыства жывёлаводаў. Усе гэтыя прыклады даволі паказваюць наколькі неабходны спэцыяльныя віды коопэрацыі.

Урэшце можна сказаць, што галоўны кірунак працы вясною будзе выяўляцца так:

1. Галоўнай задачай пасеўнай кампаніі зьяўляецца організацыя інтэнсыўнай сельскай гаспадаркі; дзеля чаго патрэбна, як можна шырэй, правесьці працу па арганізацыі шматпольля, паказальных вучасткаў, ачыстцы насеньня і г. д.

2. Выкарыстоўваньне пасеўнай кампаніі для арганізацыі розных відаў спэцыяльнай (вытворчай) коопэрацыі, як насенныя, машынныя, жывёлаводныя таварыствы, малочныя арцелі і г. д.

3. Дапамога маламоцнаму сялянству ў зьвязку з гаспадарчай адбудовай, землянадзяленьнем і земляўпарадкаваньнем, даючы яму крэдыт і г. д. Пры гэтай дапамозе трэба перш дакладна выявіць лік маламоцных гаспадарак раёну з тым, каб зробленая ім дапамога магла-б адразу паставіць іх на ногі ў гаспадарчым кірунку.

**Зьм. Прышчэпаў.**

# ПАЛЯВАЯ ГАСПАДАРКА

## Каліфосфатныя ўгнаеньні на балотах.

*(З працы Забалацкай балотнай дасьледчай станцыі).*

Як павярхоўнае, так і грунтоўнае палепшаньні балот зьвязаны з правільным прымяненьнем мінэральных угнаеньняў.

Тут будзе гутарка аб прымяненьні вапны, калійнае солі і фосфарна-кіслых угнаеньняў.

З літаратуры вядома, што прымяненьне вапны на нізінных балотах*) амаль не дае ніякага выніку, а ўсё залежыць ад правільнага прымяненьня калійных і фосфарных угнаеньняў.

**Ураджай аўса на балоце (зярна і саломы).**




1) Тамасшлак . . 24 п.
Калійная соль . 15 п.

2) Калійная соль 15 п.

3) Без угнаеньня.

Нормы гэтых угнаеньняў розьняцца ў залежнасьці ад характару торфу; пры гэтым, як правіла, замежныя нормы значна большыя, чым нашы.

Дзеля таго, каб ведаць, *колькі трэба класьці на нашых тарфяніках угнаеньняў—калійных і фосфарных*, быў пастаўлены вопыт з аўсом на 1/4 дзес. Разам і паасобку пад авёс былі ўнесены калійная соль (30 проц), тамасшлак (17 проц.) і фосфарытная мука (10 проц.).

Авёс быў пасеяны 5 травеня (8 пуд. на дзес.), на тарфяніку, які першы раз быў узараны ўвосень.

*) Нізінныя балоты ў нас найболып пашыраны і цікавыя. Балотная гаспадарка знаходзіцца на адным з такіх балот плошчаю ў 4000 дзес.

Ужо з пачатку росту аўса адрозьніваліся некаторыя дзялянкі; уплыў калійнае солі быў асабліва прыметны: расьліны пачалі добра расьці, былі сакавіты і мелі цёмна-зялёны колер; сарнякі пачалі пазьней расьці, але пасьля вялікіх дажджоў авёс палёг.

Характар росту аўса і вынікі ўраджаю паказаны ў табліцы.

| №№ | Назва ўгнаеньня. | Норма на 1 дзес. у пуд. | Ураджай у п. | | Рост к часу прыбор. ў см. | Увага. |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Зярна | Саломы | | |
| 1 | Фосфарытнаямука . . | 40 | 52 п. | 130 п. | 80 | Слабы рост, малая засьмечанасьць, невялікае палягаьне. |
| 2 | Тамасшлак . . . . | 24 | 57 п. | 120 п. | 75-80 | Таксама |
| 3 | Контроль . . . . . | — | 63 п. | 113 п. | 75-80 | Таксама |
| 4 | Фосфарытная мука. .<br>Калійная соль . . . | 40<br>15 | 91,5 п. | 174 п. | 95-100 | Значн. палягаьне і шмат сарніны. |
| 5 | Тамасшлак . . . .<br>Калійная соль . . . | 24<br>15 | 117 п. | 242 п. | 100-105 | Таксама |
| 6 | Калійная соль . . . | 15 | 134 п. | 226 п. | 100-105 | Значнае палягаьне і засьмечанасьць. |

Гэта першыя вынікі вопыту, якія далей могуць і зьмяніцца, але некаторыя з іх можна напэўна адзначыць.

1. Відаць, што ўнясеньне адных фосфарна-кіслых угнаеньняў у першы год карыстаньня балота не дае карысьці.

2. Вельмі добры ўплыў робіць калійная соль, якая паложана адна (каля 5 пуд. $K_2$ O, або 15 пуд. солі на дзес.); пры гэтым павышаецца ўраджайнасьць удвое; але пры значным росьце расьліны палягаюць і выклікаецца разьвіцьцё сарнякоў (лебяды, крапівы і інш.).

3. Пры дабаўленьні да калійнае солі фосфара бывае зьмяншэньне ўраджаю зярна (таксама і на дзялянцы, якая ўгноена фосфарам).

Гэта ўсё нам кажа, што фосфарна-кіслыя ўгнаеньні не даюць ніякіх вынікаў на некаторых нашых нізінных балотах*); падругое, вопыты дазваляюць скараціць расходы на куплю фосфарных угнаеньняў. Таксама важна пры гэтым адзначыць і паляганьне аўса, (мясцовы сялянскі), які ня гледзячы на гэта, усё-ж дае высокі ўраджай.

Адсюль зусім зразумела, як вынік, што 1) трэба рабіць спробу ўгнаеньняў і прымяняць толькі тыя, якія будуць найбольш падыхо-

*) Нізінныя балоты дасьледчай гаспадаркі напэўна багаты фосфарам, бо, капаючы канавы, часта можна знаходзіць каменчыкі вівіаніту (ён багаты на фосфар) А. Ш

дзіць да данае мясцовасьці; 2) каб пазбавіцца ад паляганьня, трэба выбіраць такія сарты аўса, якія-б добра маглі расьці на балоце.

Вось якія вынікі працы аднаго году з аднэй расьлінай. Наступная праца будзе пашырана і паглыблена; яна дасьць больш поўны і ўсебакова асьветлены матэрыял.

А. Шохар.

---

## Ачыстка насеньня.

**Сарнякі—вельмі шкодная прымешка ў насеньні. Перад севам трэба ачысьціць насеньне ад сарнякоў.**

З усіх адзнак, якія характэрызуюць якасьць пасеўнага матэрыялу, адно з важных месцаў займае яго чыстата ці ступень засьмечанасьці насеньня.

Па свайму характару сьмецьце можна падзяліць на дзьве групы: жывыя і мёртвыя прымешкі; але лепш каб гэтага сьмецьця ня было ў пасеўным матэрыяле. Разгледзім кожную з гэтых груп паасобку.

Да мёртвага сьмецьця належыць мякіна, пясок, глыбкі зямлі, кавалкі сьцяблоў і інш.

У жывым сьмецьці трэба адрозьніваць бітыя і пашкоджаныя зярняты, прымешку другога віду расьлін, напрыклад, аўса ў ячмені або ячменю ў пшаніцы, і ўрэшце насеньне сарнякоў.


Арфа Рэбера.

Прымешка бітага і пашкоджанага насеньня ў пасеўным матэрыяле ўбытачна тым, што калі-б яно было аддзелена, то яго можна было-б скарыстаць у гаспадарцы. Калі-ж яно высеяна з насеньнем, то дарма гіне ў глебе. Таксама лепш, каб у пасеўным матэрыяле ня было насеньня другога віду расьлін, бо яны растуць лепш, чым асноўны пасеў і гэтым шкодзяць росту апошняга.

З усіх самых небясьпечных і шкодных прымешак—гэта насеньне сарнякоў. Яны зьяўляюцца ворагамі той расьліны, з якой высеяны. Высеяныя ў глебу сарнякі хутка множацца. Так, напрыклад, адна шкодная расьліна асот за лета можа даць каля 19.000 зярнят і г. д.

Ад сарнякоў вельмі вялікая шкода; яны заглушаюць пасевы, адбіраюць пажыўныя матэры і вільгаць. Некаторыя з сарнякоў бываюць атрутнымі, як для жывёлы, так і для чалавека. Сарнякі вельмі трывалыя і жывучыя; яны могуць доўга захоўваць сваю ўсходжасьць, да 2-3 і нават 4 год. Гэта можа бачыць кожны гаспадар; напрыклад, дзе вымакае жыта, там добра расьце жытняк. Дзе нястача вільгаці, там добра расьце лебяда, палын, малачай і інш.

Зьявіўшыхся на полі сарнякоў вельмі трудна зьністожыць і калі ня будуць прыняты меры, то яны з году ў год будуць засьмечваць поле ўсё больш і больш.

І такім чынам мы бачым, якую вялікую шкоду прыносяць прымешкі ў насеньні, і чаму кожны гаспадар павінен падумаць, як пазбавіцца ад такіх шкодных прымешак у насеньні. Для гэтага трэба ачышчаць насеньне на машынах. Усе гэтыя прымешкі могуць быць аддзелены ад насеньня толькі пры дапамозе машыны і мо' не аднэй толькі, а некалькіх. Машыны цяпер ёсьць; патрэбна толькі жаданьне, каб пасевы былі чыстыя ад сарнякоў.

Гаспадар тут можа сказаць, што яму не магчыма купіць адпаведную машыну. Але гэтага цяпер і ня трэба вымагаць. Пры існаваньні сеткі коопэрацыйных складаў і пракатных пунктаў гаспадарка можа быць забясьпечана патрэбнымі машынамі, ня купляючы іх для сябе (можа карыстацца імі з пракатных пунктаў).

Акрамя таго, некалькі гаспадароў аб'яднаўшыся разам, могуць атрымаць машыну з с-г. складаў на льготных умовах. Зробленыя гаспадаром затраты на ачыстку пасеўнага матэрыялу аплацяцца чыстымі пасевамі і павышаным ураджаем.

Трэба сеяць толькі ачышчаным і адсартаваным насеньнем; нагэтым мы пазбавімся ад сарнякоў і павялічым ураджаі сваіх палёў.

А. Савельеў.

(Горкі, с-г. Акадэмія).

---

# Заячая канюшына, або пералёт звычайны.

(*Anthyllis Vulneraria L.*)

Заячая канюшына зусім мала вядома беларускаму селяніну. Між тым на пескавых і супескавых глебах гэта канюшына з посьпехам можа замяніць чырвоную. У Польшчы я сустракаў цэлыя нівы, якія былі засеяны гэтаю расьлінаю; у нас жа яна сустракаецца толькі часам на межах і пескавых глебах, як дзікая расьліна.

Форма лісьцікаў у заячай канюшыны іншая, чым у другой канюшыны; кветкі падобны да кветак чырвонае канюшыны, толькі маюць жоўты колер. Насеньне заячае канюшыны буйнейшае, чым чырвонай.

Перад вайною мне давялося пазнаёміцца з разьвядзеньнем гэтае расьліны. Вучастак пад яе быў выбраны досыць высокі з супескавою глебаю. Чырвоная канюшына там ніяк не магла расьці. Годам раней, там поле было пад азімым жытам па гнаі; канюшына-ж высявалася пад яравое жыта. Насеньне гэтае канюшыны высеена на дзес. паўтара пуды. Прыкрывалася насеньне зямлёю таксама, як і насеньне чырвонае канюшыны. На другі год былі зьняты два ўкосы сена; пры чым першы рана, у палове чэрвеня. Сена сабрана больш 300 пуд. з дзес. Коні спачатку ня надта ахвотна яго ядуць, а каровы заячую канюшыну ядуць добра, як сырую, так і сенам.

На трэці год (другі год карыстаньня) заячую канюшыну пакідаць ня варта.

Вопыты пасеву гэтае канюшыны мною ставіліся ў сяле Жыціне на Бабруйшчыне.

Агроном К. Хаустовіч.

# Зьбірайце попел.

**Попел могуць купляць коопэратывы. Попел трэба зьбіраць у гарадох.**

Дзякуючы адсутнасьці ў нас калійных угнаеньняў, СССР кожны год траціць шмат грошай на куплю ў Нямеччыне каініта і калійнае солі.

У зьвязку з пастановай XIV зьезду УКП пытаньне аб тым, каб увоз быў меншы за вываз з СССР, пытаньне аб зборы попелу ў нас мае вялікае значэньне.

Але, нажаль, яшчэ і цяпер шмат хто ня ведае кошту попелу і часта гаспадыні высыпаюць яго на вуліцу. Гаспадары таксама не клапоцяцца аб зьбіраньні попелу, ня гледзячы на тое, што гною ў іхняй гаспадарцы не стае, і мінэральных угнаеньняў цяжка дастаць.

За куплю - збор попелу ў першую чаргу павінна ўзяцца *с.-г. коопэрацыя.* Правесьці збор попелу можна агалашэньнем па гораду і вёсках аб тым, *што с-г. коопэрацыя купляе попел* (толькі попел ад дроў), *прыкладна па 20-25 кап. за пуд.*

Прыборшчыкі школ, бальніц, дзяржаўных, коопэрацыйных і іншых устаноў з вялікай ахвотай зьбіралі і звазілі-б попел у паказанае месца.

Праз безпрацоўных чорнарабочых і парабкоў можна было-б арганізаваць збор попелу ў горадзе і вёсках. Ходзячы з дому ў дом, яны ўгаварваліся-б з гаспадынямі аб куплі ў іх попелу, прыкладам па 15 кап. за пуд, а самі здавалі-б у с-г. коопэрацыю па 25 кап. і такім чынам мелі-б за працу 10 кап. з пуда.

Гаспадыні, атрымоўваючы хоць-бы па 15 кап. за пуд, пачнуць цаніць попел і ня будуць выкідаць яго на вуліцу.

У вёсках збор попелу можна праводзіць праз парабкоў і камітэт сялянскае ўзаемадапамогі, даўшы ім за гэта пэўны процант.

Па саўхозах, колхозах і пасёлках трэба правесьці агропропаганду аб зьбіраньні попелу ў спэцыяльна зробленыя па магчымасьці жалезныя скрынкі.

Коопэрацыя знойдзе збыт на попел нароўне з іншымі ўгнаеньнямі. Зарабляючы належны процант, яна будзе прадаваць попел дзешавей, чым іншыя калійныя ўгнаеньні.

Купля попелу зробіць уплыў на сялян і яны пачнуць цаніць яго, як усякі тавар, за які плацяць грошы.

Толькі потым сяляне пачнуць ужо зьбіраць попел не на продаж у коопэрацыю, каб пасьля купляць яго па больш высокай цане, а будуць угнойваць ім сваё поле.

**Агроном Л. Калер.**

---

# Аб угнаеньні поля на Беларусі.

Беларусь—старонка земляробства, дзе першачарговым пытаньнем зьяўляецца пытаньне аб павялічэньні ўраджаяў, якія на 50 проц. залежаць ад угнаеньня.

Вядома, што Нямеччына павялічала ўраджаі сваіх палёў толькі дзякуючы мінэральнаму ўгнаеньню. Напрыклад, сярэдні ўраджай пшаніцы ў Нямеччыне быў:

| 1770-88 г. | 1870-80 г. | 1895-1900 г. | 1905-110 г. | 1913 г. |
|---|---|---|---|---|
| 50 п. | 90 п. | 114 п. | 120 п. | 140 п. |

Узрост ураджаю Нямеччыны за 1890-1913 гады якраз і супадае з момантам павялічанага ўжываньня мінэральных угнаеньняў; большжа паступовае падняцьце ўраджаю з 1780 г. па 1880 г. стаіць у зьвязку толькі з палепшаным вырабам глебы і засевам канюшыны ў севазвароце.

Але наша слабая хэмічная прамысловасьць, на грунце якой толькі і можна здабываць патрэбную колькасьць мінэральных угнаеньняў, прымушае нас шукаць іншых шляхоў угнаеньня глебы і іншых шляхоў падняцьця ўраджаяў. Нам трэба выкарыстоўваць дзеля гэтага сырыя, хэмічна не апрацаваныя матэрыялы, як торф, фосфарыт, вапна, попел і інш.

На шлях найлепшага выкарыстаньня гэтых сырых матэрыялаў, як угнаеньня, і сталі навуковыя ўстановы. (Навуковы Інстытут па ўгнаеньню і інш), якія вядуць спробы і досьледы ў гэтым напрамку.

На падставе таго, што ў сельскай гаспадарцы можна ўжываць розныя сырыя матэрыялы, як угнаеньне, проф. Пранішнікаў злажыў карту СССР. У ёй адзначаны зоны (абшары), дзе можна ўжываць розныя ўгнаеньні. Зоны такія:

1. Поўдзень, дзе ўгнаеньне зусім ня мае ўплыву.

2. Украіна, дзе адчуваецца ў глебе недахоп фосфару і дзе можа ўжывацца толькі супэрфосфат.

3. Так званы Лебядзянцаўскі абшар (дэградзіраваны чорназём) раён непасрэднага ўжываньня фосфарыту.

4. Фосфарытна-лубінавы раён, які пачынаецца з Беларусі і канчаецца на поўначы там, дзе ўжо не высьпявае лубін.

5. Паўночная зона, якая падзяляецца на дзьве часткі:

а) цэнтральную, дзе можна сеяць канюшыну (з яе мець азот) і дадаваць фосфарыт;

б) паўночную, дзе канюшыну замяняе торф і таксама дадаецца фосфарыт.

Як відаць, Беларусь уваходзіць у фосфарытна-лубінавую зону, дзе магчыма ўжываньне лубіну і фосфарыту.

Акрамя лубіну, на Беларусі ў шырокім разьмеры можна ўжываць таксама і азот торфу.

Сяляне Архангельскай губ. даўно ўжо ўжываюць торф у сельскай гаспадарцы, як угнаеньне. Па падліку, які зрабіў М. Бахулін, разьмер ужываньня торфу ў сельскай гаспадарцы ў Шанкурскім і Халмагорскім паветах Архангельскай губ. штогодна ў 20 т. гаспадарак дасягае 32 мільёнаў пуд. торфу. Там торф перад угнаеньнем глебы падрыхтоўваюць, каб даць магчымасьць перагніць тарфянай масе. Спосабы падрыхтоўваньня такія: 1) правядзеньне торфу праз хлеў, як подсьціл і 2) кампаставаньне торфу з попелам, вапнаю і рознымі рэшткамі гаспадаркі, як памыі і інш. Дзякуючы ўжываньню торфу, ураджай у сярэднім там бывае ня менш, як 60—70 пуд. з дзес. тады, як сярэднія ўраджаі па СССР—50 пуд. з дзес.

Калі ў Архангельскай губ. пры выключнай беднасьці паўночных глеб, кароткім леце, з маразамі ў траўні і жніўні сяляне павялічылі ўраджай да 60—70 пуд. з дзес., то пры нашых беларускіх, значна лепшых умовах ураджай павінен быць падняты на многа вышэй.

Для параўнаньня гнаёвых якасьцяй аднаго торфу, тарфянага і саломенага гною, дадаю лічбы вопытаў з жытам Запольскай дасьледчай станцыі, Ленінградзкай губ.

| Угнаеньне | Колькасьць угнаеньня на 1 дзес. | Ураджай 1 дзесяціны | Лішак супроць ня ўгноенага |
|---|---|---|---|
| Гной саломены . . | 2400 пуд. | 56 пуд. | 32 пуд. |
| „ тарфяны . . | 2400 „ | 78 „ | 54 „ |
| Адзін торф . . . | 4800 „ | 60 „ | 36 „ |
| Без угнаеньня . . | — | 24 „ | — |

Вопыты з ячменем Вятскай с.-г. дасьледчай станцыі

| Угнаеньне | Колькасьць угнаеньня на 1 дзес. | Ураджай 1 дзесяціны | Лішак супроць няўгноенага |
|---|---|---|---|
| Па торфу . . . . | 2000 пуд. | 106 пуд. | 45 пуд. |
| „ саломен. гнаі . | 2400 „ | 113 „ | 52 „ |
| Бяз угнаеньня . . | — | 61 „ | — |

Не пералічваючы ўсіх вопытных дасягненьняў у гэтым кірунку, трэба сказаць, што ўсе яны гавораць на карысьць торфу. На Беларусі ў Койданаўскім, Самахвалаўскім і Заслаўскім раёнах сяляне ўжо пачынаюць ужываць торф, як угнаеньне. На Віцебшчыне ёсьць нават выпадкі правядзеньня торфу праз скотны хлеў, як подсьціл.

Як-жа багаты мы торфам? Па лічбах НКЗ у Беларусі маецца тарфяных балот 650.000 дзес. Сярэдняя глыбіня пласта торфу 1 саж. Гэта складае прыблізна 1.560 міл. куб. саж. сырога торфу. Калі мы будзем лічыць у 1 куб. саж. 80-100 пуд. ужо сухога торфу і будзем лічыць у ім 2-3 проц. азоту, то гэта прыблізна пакажа нам, што ў Беларусі запас азоту, які зьвязаны ў масе торфу, дасягае 3-х мільярдаў пуд. Пры пералічэньні яго на салетру, гэта дасьць прыблізна 18 мільярдаў пуд. салетры! Прымаючы-ж пад увагу беднасьць нашых глеб азотам і перагноем, торф у недалёкім часе адыграе ў нас вялікую ролю ў павялічэньні ўраджаяў.

Торф сваёю перагнойнаю масаю дапаможа нам мала рухомую фосфарную кваснасьць фосфарыта перавесьці ў такую форму, якой расьліны яе могуць браць. Пры кампаставаньні торфу з фосфарытам (суадносіны фосфарыту к торфу 1:100) 69 проц. фосфарытнай кісласьці пераходзіць у форму, якая растварыма ў вадзе.

Трэба адзначыць, што пры кампаставаньні торфу з вапнаю, торф надта добра перагнівае і азот перагнойнае масы торфу мінэралізуецца (азот такі і патрэбен расьлінам).

Такім чынам, мы бачым, што на Беларусі ёсьць усе магчымасьці выкарыстаньня сырых матэрыялаў (*фосфарыту, торфу, вапны, попелу, ї інш.*), як угнаеньня, каб павялічыць ураджай.

Патрэбны азот нам дасьць торф: ён амаль што роўна раскіданы па ўсёй Беларусі. Лубін-жа будзе таксама служыць азотным угнаеньнем. Фосфарным угнаеньнем зьяўяцца Сешчанскія фосфарыты, якія знаходзяцца на мяжы БССР у Смаленшчыне, а таксама і нашы фосфарыты, якія знойдзены ў Калінінскай акрузе. Вапны ў нас на Беларусі шмат, а яна таксама дапамагае раскладаньню торфу. Попел і пяскі (глаўканітавыя) змогуць даваць нам калійныя ўгнаеньні.

Мне здаецца, што цяпер нам трэба толькі зьвярнуць на ўсё гэта ўвагу. Трэба шырока распаўсюджваць веды сярод сялянства па кампаставаньню торфу і правядзеньню яго праз скотныя хлявы, а таксама пашыраць гэтыя веды сярод агрономаў на навуковых падставах (нажаль, на курсах агрономаў, якія праводзіць НКЗ у Акадэміі, з гэтым пытаньнем агрономаў падрабязна не знаёмілі). Трэба паставіць вопыты з торфам, фосфарытам і іншымі ўгнаеньнямі. Дасьледчыя станцыі павінны паставіць у сваіх програмах пытаньні па тарфаваньню, фосфарываньню і вапнаваньню.

Поруч з гэтым, патрэбна весьці дасьледчую лябораторную працу па выкарыстаньню названых сырых матэрыялаў, як угнаеньня.

Толькі такія, безадкладныя крокі памогуць у хуткім часе павялічыць ураджай нашых палёў.

**П. Трус.**

(Горкі, с-г. Акадэмія).

---

# Аб палявых севазваротах.

Ангельскі вучоны Артур Юнг зьяўляецца першым заснавацелем пладазьменнай сыстэмы паляводзтва Ангельшчыны. Ён першы прапанаваў так званы *Норфольскі севазварот* (назва гэта пашла ад графства Норфольк, дзе гэты севазварот перш пачалі ўводзіць).

У Расіі-ж раней існавалі дзьве сыстэмы земляробства, падобныя адна да другой. Першая сыстэма паляводзтва завецца *агнёвай* ці *падсечнай* (у паўночнай лясной паласе Расіі), другая *абложная* (на поўдні Расіі).

Пры агнёвай сыстэме земляробства, гаспадар высякае вызначаную плошчу леса і застаўляе яго на 2-3 гады на месцы. Потым падсохшыя дрэвы падпальваюцца, а попел, ад згарэўшага лесу перамешваецца з верхнім слоем зямлі. У першыя гады сеюць лён, ячмень, жыта, авёс. Сеюць некалькі год адны і тыя-ж расьліны, пакуль яны даюць ураджаі. Калі-ж зямля перастае радзіць, гаспадар кідае яе і пераходзіць на новае месца. Так гаспадарыў паўночны селянін некалькі сот год.

Аблажная сыстэма земляробства была заведзена ў паўднёва-заходніх раёнах, і на ўсходзе Расіі. Тут селянін узорваў кавалак зямлі і засяваў яго збожжавымі расьлінамі некалькі год, пакуль зямля не зарастала дзікімі травамі і перастала радзіць. Далей земляроб вырабляў новы кавалак зямлі. І гэта было датуль, пакуль яшчэ не адчувалася нястача зямлі. Але з павялічэньнем насельніцтва прышлося пераходзіць да новай сыстэмы *папарна-зярновай*. Тое-ж самае сталася і ў лясістых раёнах.

Перш на перш пры зярновай сыстэме ўтвараецца 2-х палёвы севазварот (1) папар, 2) азіміна). Гэта двохпалёвая сыстэма хутка пачала замяняцца трохпалёвай (*1) папар, 2) азіміна 3) ярына*).

Але і гэта трохпалёвая гаспадарка прышла да заняпаду. Розныя с.-г. расьліны патрабуюць неаднолькавага вырабу поля, угнаеньня і г. д. Так, напрыклад, адны расьліны любяць зямлю-навіну, чыстую ад дзікіх траў, як лён, пшаніца, а другія любяць добра ўспульхненую зямлю —буракі, бульба; некаторыя мірацца з сарнінамі (выка, боб). Бабовыя, як канюшына, выка, сэрадэля, лубін, не патрабуюць прысутнасьці ў глебе азоту, бо яны самі могуць здабываць яго з паветра.

Прымаючы пад увагу усё гэта, можна сказаць, што правільны севазварот павінен быць такім, у якім на падставе азначаных запатрабаваньняў расьлін, кожнай з іх будуць даны найлепшыя ўмовы для росту.

Лепшым будзе той севазварот, у якім паміж зярновымі расьлінамі сеюцца кармовыя травы; травы апрача таго, што даюць глебе шмат азоту, робяць яе пульхнай і часткаю нішчаць дзікую траву. Таксама ў севазвароце павінны быць і асыпныя расьліны—бульба, буракі і інш.

Пры трохпалёўцы гаспадарка павінна мець даволі кармовых угодзьдзяў, г. зн. сенажацяй і выганаў. У час панскага прыгону да 1861 г. сялянская гаспадарка яшчэ больш-менш мела гэтыя ўгодзьдзі.

Але ў 1861 годзе ўсе лепшыя кармовыя ўгодзьдзі былі забраны памешчыкамі, а сялянскія гаспадаркі засталіся без сенажацяй і выганаў. Разам з гэтым гаспадары павінны былі застацца пры трохпалёўцы.

Гаспадарка без кармовых угодзьдзяў ня можа трымаць скаціну, а такім чынам ня мае і гною, які падтрымоўвае ўраджайнасьць глебы пры зярновай сыстэме. Адсюль вынікае і паніжэньне ўраджаю. Каб трымаць усё-ж такі скаціну гаспадарка прымушана скарыстоўваць пад выпасы папары і іржэўнікі з дрэннай расьлінай. Пры такім стане нельга правільна вырабляць папар і поле. Наогул вынікам чаго зьяўляецца зьніжэньне ўраджаю і заглушэньне пасеваў дзікай травой.

У далейшым, у зьвязку з разьдзелам гаспадарак, зямельная плошча кожнага двара зьменшылася. Каб павялічыць пахаць, сяляне пачалі ўзорваць кармовыя ўгодзьдзі, якія можна было скарыстоўваць пад выпасы. Дзякуючы гэтаму кармовай плошчы амаль зусім ня было і ня гледзячы на гэта, плошча пахаці ўсё-ж не магла пракарміць усіх членаў сям'і. Гаспадарка паступова пачала зьмяншаць плошчу папара, засяваючы яго зярновымі расьлінамі. (К пачатку сусьветнай вайны ў Сьмілавіцкім раёне Менскай акругі; папару ўжо амаль зусім не заставлялі).

Такім чынам, трохпалёўка замяніла стракатасьць поля з бязсыстэмнай зярновай культурай, дзякуючы чаму зямля вельмі зьбяднела, акрамя таго на палёх разрасталася дзікая трава, якая часта заглушала збожжавыя расьліны. Усё гэта прывяло сельскую гаспадарку да заняпаду.

Але сялянства шукае новых шляхоў. Наша задача паказаць ім правільны шлях. Трэба завесьці ў сялянскіх гаспадарках правільнае чаргаваньне расьлін, павялічыць пасеў кармовых траў, караньплодаў і бульбы на палёх, што дасьць павялічэньне ў гаспадарцы корму і павялічыць ураджай збожжавых расьлін.

Абраць севазварот для кожнай гаспадаркі ці для цэлай групы гаспадарак ня так проста, як гэта здаецца, бо кожны севазварот павінен адпавядаць эканомічным і глебавым умовам і рабочай сіле кожнай гаспадаркі. У іншым выпадку і шматпольны севазварот ня дасьць карысьці.

Так, напрыклад і прасьцейшы шматпалёвы Норфольскі севазварот (*1 авёс+канюшына, 2) канюшына на скос, 3) азіміна, 4) караньплоды*) ня можа здаволіць сялянства, бо ў ім няма выпасу. Але ў раёне мяст. Сьмілавіч, Менскай акругі гэты севазварот прымяняюць, бо там ёсьць магчымасьць здабываць гной на старане і ёсьць выпасы для скаціны. 7-х палёвы севазварот (1 *папар*, 2) *азіміна*, 3) *караньплоды*. 4) *ярына+канюшына*, 5) *канюшына на скос*, 6) *канюшына пад выпас*, і 7) *ярына*) таксама не здавальняе насельніцтва, бо застаецца малая плошча пад жыта і караньплоды.

Нарэшце, добрым севазваротам зьяўляецца 8-х палёвы, які больш прыстасаваны да нашых умоў (1 *папар чорны*, 2) *азіміна*, 3) *бульба*, 4) *ярына+канюшына*, 5) *канюшына на скос*, 6) *канюшына пад выпас*, 7) *жыта*, 8) *ярына*), але і ён таксама не здавальняе малазямельных сялян, бо тут не стае поля пад бульбу. Гэты севазварот прымяняецца там, дзе сяляне маюць больш зямлі.

Пяціпалёвы севазварот, які прапанаваны дасьледчым полем Ціміразеўскай с.-г. Акадэміі (1. *папар*, 2) *азіміна*, 3) *бульба*, 4) *ярына*, 1) *папар*, 2) *азіміна+канюшына*, 3) *канюшына на скос*, 4) *канюшына 2-га году*, 5) *арына*) ня зусім добра падыходзіць да нашых падзолістых глеб. Тут бульба застаецца два гады на адным месцы і значна распыльвае глебу.

Загэтым, у паўднёвай і паўднёва-заходняй частцы Сьмілавіцкага раёну ўводзіцца такі 5-ці палёвы севазварот 1) *азіміна па гнаі з пажніўнай культурай лубіну* 2) *бульба*, 3) *ярына+канюшына*, 4) *канюшына на скос*, 5) *канюшына пад выпас і часткаю лубін на зялёнае ўгнаеньне*. Малазямельным жа сялянам паўночнай часткі раёну, дзе землі пескавыя, супескавыя і глыбока ападзоленыя, раіцца 7 і 8 палёвы севазварот з засевам лубіну на зялёнае ўгнаеньне ў папары.

Чатырохпалёвы севазварот прымяняецца каля мястэчка (дзе можна дастаць гною) і ў тых пасёлках, якія ня хочуць заводзіць севазварот з вялікім лікам зьмен. У такіх выпадках уводзіцца Норфольскі севазварот з пажніўнай культурай лубіну. П. Фурс.

Саўх. Вязынь.

---

# Сучасныя рыначныя ўмовы сельскай гаспадаркі Беларусі.

**Зараз рынак лепш аплачвае гаспадару продукты жывёлагадоўлі (масла, мяса, яйкі) і таксама лён, каноплі, бульбу. Іх і трэба павялічваць у гаспадарцы, скарачаючы засеў збожжа.**

Гаспадар даволі часта зьмяняе пабудову сваёй гаспадаркі. Не праходзіць ніводнай вясны, каб ён не зрабіў тых ці іншых зьмен у пасеве розных расьлін, у выбары жывёлы на племя, продаж і г. д. Прымушаюць гаспадара к зьменам розныя прычыны і ўмовы, у якіх яму прыходзіцца гаспадарыць. Галоўнымі прычынамі, робячымі ўплыў на пабудову гаспадаркі, зьяўляюцца рыначныя ўмовы, альбо тыя цэны,

якія існуюць на розныя с.-г. продукты. Пад уплывам цэн гаспадар імкнецца організаваць сваю гаспадарку так, каб яна прыносіла найбольшы прыбытак. Гаспадар-жа альбо зусім ня можа рабіць уплыву на вышыню цэн: тады ён цалком знаходзіцца пад уплывам рынка, альбо праз коопэрацыю гаспадар можа дабіцца такіх цэн, якія найбольш адказваюць яго мэтам; тут гаспадар выступае ўжо організавана (актыўна). Але ў якіх-бы адносінах да рынку не знаходзіўся гаспадар, ён заўсёды павінен ведаць, якім продуктам найбольш спрыяе рынак, на якія стаяць высокія і на якія нізкія цэны. Але цэны заўсёды хістаюцца, нейкі час стаяць на адным роўні і каб уявіць той ці іншы напрамак у хістаньні цэн, трэба браць сярэднія за больш-менш доўгі час. Як гаспадар, робячы тыя ці іншыя зьмены ў гаспадарцы, павінен ведаць гэты напрамак у хістаньні цэн на розныя продукты, так і агроном павінен добра ўяўляць сабе характар і напрамак хістаньня цэн і асабліва тады, калі ён робіць грунтоўную організацыйную дапамогу гаспадарцы, пераводзячы яе на шматпольле, раючы тыя ці іншыя зьмены ў жывёлагадоўлі і г. д. Толькі тыя зьмены будуць жыцьцёвымі, якія не супярэчаць рыначным умовам. Калі цэны спрыяюць бульбе, ці другой якой расьліне, толькі тады яна замацуецца ў севазвароце і г. д.

Наша сельская гаспадарка па пасеўнай плошчы, ліку жывёлы, разьмеркаваньню плошчы пад расьлінамі і г. д., амаль зраўнялася з даваенным часам і цяпер надыходзіць новы пэрыод у яе разьвіцьці. Якім-жа шляхам яна павіннаісьці далей? На гэта ёсьць многа адказаў і між іншым на гэта павінен адказаць і напрамак у цэнах на розныя с-г. продукты. Дзеля гэтага параўнаем суадносіны цэн на розныя с-г. продукты да вайны і цяпер.

У сельскай гаспадарцы ўсе продукты, якія ідуць на рынак, можна разьбіць на дзьве групы—*продукты земляробства і жывёлагадоўлі.* Падругое, гэтыя групы ў сваю чаргу могуць быць разьбіты на падгрупы і паасобныя продукты. Мы параўнаем суадносіны цэн на продукты земляробства і жывёлагадоўлі. Прычым, з продуктаў земляробства возьмем жыта, ячмень, авёс і грэчку, а з продуктаў жывёлагадоўлі—масла, мяса, сала, яйкі і куры. Цэны на гэтыя продукты, як у даваенны час, так і цяпер, былі рознай вышыні. Раўняць гэтыя цэны па вышыні ня прыходзіцца затым, што заўсёды адбываецца хістаньне ў вартасьці саміх грошай, якімі расцэньваюцца продукты. Напрыклад, калі цяпер і ў даваенны час цана якога-небудзь продукта раўнялася рублю, то адсюль нельга быць упэўненым, што цана гэтага продукта не зьмянілася за гэты час, бо зьмянілася вартасьць самога рубля. Загэтым мы параўнаем, колькі патрэбна было заплаціць пудоў жыта, аўса, ячменю і грэчкі за фунт *масла, мяса, сала* і г. д. да вайны і цяпер. *(Гэта паказана ў табл.).*

| У ЯКІ ЧАС | За 1 фунт масла | За 1 фунт мяса | За 1 фунт сьвіного сала | За 10 штук яек | За 1 курыцу |
|---|---|---|---|---|---|
| Да вайны . . | 0,50 | 0,16 | 0,29 | 0,23 | 0,58 |
| Цяпер . . . | 0,59 | 0,17 | 0,31 | 0,25 | 0,67 |
| Павышэньне ў $^{0}/_{0}$ . . | 18,0 | 6,25 | 6,89 | 8,69 | 15,51 |

Цэны да вайны ўзяты за 1913 год сярэднія па трох беларускіх губэрнях, а цяперашнія—сярэднія за 1924-25 г. па ўсёй Беларусі.

Як бачым, усе продукты жывёлагадоўлі ў цэнах рознага збожжа падняліся і асабліва масла і куры. Мяса, сала падняліся амаль што аднолькава, а яйкі некалькі больш, чым мяса і сала. Адсюль можна зрабіць вывад, што цяпер больш прыбытковымі сталі продукты жывёлагадоўлі ў параўнаньні з продуктамі земляробства. Ёсьць большы сэнс даваць рынку продукты жывёлагадоўлі замест продуктаў палявой гаспадаркі. Гэта трэба мець на ўвазе кожнаму гаспадару. Лепш збожжа стравіць жывёле і прадаць яе продукты, чым прадаваць лішкі збожжа, а калі яшчэ прыняць пад увагу, што жывёла дасьць угнаеньне, якое вельмі патрэбна нашым малаўраджайным глебам, то гэта стане яшчэ больш зразумелым.

Цяпер паглядзім, якія продукты палявой гаспадаркі больш прыбытковы. Возьмем тыя-ж самыя збожжавыя (жыта, авёс, ячмень і грэчку) і параўнаем іх з продуктамі інтэнсыўных расьлін, як *лён*, *каноплі* і *бульба*.

Трэба заплаціць пудоў жыта, аўса, ячменю і грэчкі за пуд.

| | Валакна лёну | Пянькі | Бульбы |
|---|---|---|---|
| Да вайны . . . . | 5,20 | 5,04 | 0,35 |
| Цяпер . . . . . | 5,35 | 6,17 | 0,42 |
| Павышэньне ў $^0/_0$ | 2,85 | 22,42 | 20,0 |

Усе інтэнсыўныя расьліны ўздаражалі ў параўнаньні са збожжавымі. Пра іх можна сказаць тое самае, што і аб продуктах жывёлагадоўлі: яны больш прыбытковы і гэта трэба мець на ўвазе пры разьмеркаваньні плошчы пад расьліны. Патрэбна больш засяваць іх на продаж.

Такім чынам, мы бачым, што цэны на продукты інтэнсыўных расьлін і продукты жывёлагадоўлі цяпер лепшыя чым да вайны. Гэта сьведчыць нам, што сельская гаспадарка Беларусі павінна ісьці па шляху разьвіцьця інтэнсыўных расьлін (лёну, канапель, бульбы) з жывёлаводным ухілам. Гэта павінна быць добра ўяўлена гаспадарамі і агрономамі.

Да гэтага трэба дадаць, што для атрыманьня такіх суадносін між рознымі продуктамі і ў будучыне, трэба шырэй будаваць с-г. коопэрацыю, бо калі стане вырабляцца які-небудзь адзін продукт на продаж многімі гаспадаркамі, то ён можа зьнізіцца ў цане і тады гэтыя суадносіны зьменяцца. Коопэрацыя, якая адпавядае інтарэсам гаспадаркі, хутчэй знойдзе шлях, куды прадаць продукты, каб гаспадарка атрымала за іх найбольшую цану, што будзе толькі спрыяць далейшаму разьвіцьцю і спэцыялізацыі яе на якіх-небудзь адных продуктах.

**У. Шыцькоўскі.**

# СЯЛЯНСКІ ДОСЬЛЕД

## Падрыхтоўка да сялянскага досьледу.

**Кожны сьвядомы гаспадар можа быць дасьледчыкам. Досьлед паказвае шляхі да больш даходнай гаспадаркі.**

Якое значэньне мае сялянскі досьлед у жыцьці нашай сельскай гаспадаркі, ужо пісалася даволі шмат. Але гэта яшчэ не гавора, што пытаньне вырашана. Цяпер ёсьць шмат сялян больш-менш сьвядомых, якія кожны год у сваёй гаспадарцы заводзяць што-небудзь новае па парадзе агранома, а больш прачытаўшы ў кніжцы.

Але і да гэтага часу сялянскі досьлед ня носіць яшчэ масавага характару. Мы пакуль што ведаем толькі адзінак сялян-дасьледчыкаў, як *Я. К. Мароз* (Лепельшчына), *Алесь Сецько* (выдатны садавод Мазыршчыны), *Т. Апет* (Дуброўна, ў Аршаншчыне), *С. Бабейка* (пчаляр у Случчыне), *С. Галубцоў* (садавод-гароднік у Калініншчыне), *сел. Дучкоў* (сьвінавод у Чэрыкаве), *А. Карнейчык* (гаспадар-практык з Пуховіч) і шмат іншых.

Шмат хто з падобных сялян пісаў аб сваёй працы і гаспадарках у мясцовых газэтах і часопісе „Плуг“, дзе таксама іх праца і дасягненьні апісваліся, як праца сялян-культурнікаў.

Праўда, праца сялян-культурнікаў або культурных гаспадарак, якіх па 7 акругах ужо зарэгістравана—298, пакуль што маюць больш культурна-гаспадарчы характар, чым дасьледчы. Але і з гэтага, практычнага боку значэньне культурных гаспадарак для ваколічнага насельніцтва можа быць прыметным.

У далейшы час да сваёй прыкладна-гаспадарчай працы ім прыдзецца дадаваць і пытаньні агрономічнай пропаганды, на якіх будзе вучыцца кожны селянін тэй жа вёскі.

Пачынаючы сваю, можна сказаць, „дасьледчую працу“ з самых простых тэм, як падсеў сэрадэлі, пасеў лубіну, выкі, канюшыны ў папары, пасеў караньплодаў і г. д., пры дакладным вылічваньні ўсіх выгад ад гэтага, кожны здольны селянін праз некалькі год можа стаць дасьледчыкам.

Такім чынам, з селяніна-культурніка або і з самага звычайнага гаспадара будзе вырастаць селянін-дасьледчык, селянін—сам сабе агроном.

Ня меншае (а мо' і большае) значэньне маюць і тыя гаспадары, якія цяпер хоць і ня лічацца культурнікамі, але хочуць весьці гаспадарку па новаму. Такіх сялян цяпер сотні і тысячы. Часьцей за ўсё гэта бедната, якая атрымала зямлю ці прырэзку пасьля рэволюцыі, або гаспадары, якія вышлі на пасёлкі, завялі шматпольле і г. д.

Вось гэтыя сяляне і цікавы асабліва тым, што яны пачынаюць гаспадарыць з нічога, занова і пры зусім адменных умовах жыцьця (*савецкім будаўніцтве*). Сярод гэтых сялян і патрэбна было-б выпрацоўваць масавага культурніка, а далей і дасьледчыка. І гэта праца на-

пэўна будзе мець посьпех і значэньне, бо і зараз ужо да кожнага вучастковага агронома зьвяртаецца шмат такіх сялян за парадаю, як паставіць вопыт і г. д.*)

Ня маючы магчымасьці поўна адказаць на ўсе такія запытаньні сялян, я вельмі коратка абгавару гэта пытаньне наогул і пакажу, дзе шукаць селяніну адказаў на свае пытаньні.

Кожнаму гаспадару, які хоча паставіць у сябе вопыт або спрабаваць што-небудзь новае, перш трэба дакладна ўявіць сабе, што гэта „ноўшаства“ ў яго гаспадарцы мае падставу для разьвіцьця і можа даваць пэўную карысьць. Напрыклад, можна ставіць вопыты з торфам, як угнаеньнем, толькі там, дзе ёсьць гэты торф блізка ад гаспадаркі і яго можна здабываць.

Або другі прыклад. Поле ў гаспадара пагнойнае, добра выраблена, але мала сенажаці. Такому гаспадару можна сьмела спрабаваць сеяць канюшыну і кармовыя буракі. І яшчэ прыклад. Поле падзолістае, добра выраблена і ўгноена. Тут для большага ўраджаю жыта можна спрабаваць высеў фосфарытнай мукі і г. д.

Далей даю цэлы шэраг тэм для выбару і крытыкі саміх сялян, якія хочуць працаваць у гэтым кірунку. Разам з гэтым паказваюцца і тыя №№ час. „Плуг“, якія трэба пачытаць, каб вопыт паставіць больш-менш правільна.**)

## Сьпіс тэм для сялянскіх вопытаў.

| ПЫТАНЬНЕ, АБО ТЭМА. | Што трэба прачытаць, каб правільна зразумець пытаньне і правільна яго правесьці да канца. |
|---|---|
| 1. Падсеў сэрадэлі ў жыта рана вясною. | „Плуг“ 1925 г. № 3 (стар. 5) і № 3 1926 г. |
| 2. Пасеў лубіну на насеньне. | „Плуг“ 25 г. № 1 (ст. 3); № 4 (ст. 3); № 10-11 (ст. 43). |
| 3. Пасеў лубіну на ўгнаеньне. | Там жа і „Плуг“ № 2 (ст. 2). |
| 4. Пасеў лубіну ў аржоньні, як угнаеньне пад ярыну наступнага году. | Там жа і „Плуг“ № 5 (ст. 12-16). |
| 5. Заняты папар (пасеў выкі, выкі з аўсом, пялюшкі). | „Плуг“ № 3 (ст. 4); № 4 (ст. 8-11) і № 5 (ст. 4-7). |
| 6. Пасеў кармовых буракоў і турнэпсу. | „Плуг“ 25 г. № 4 (ст. 5-7); № 8 (ст. 10-12). |

*) Падобныя просьбы прысылаюцца ў рэд. час. „Плуг“. Адну паказваю.

*Паважаны рэдактар*! Я надта жадаю сёлета вясною ў сваёй гаспадарцы паставіць некалькі вопытаў, напрыклад, з мінэральным угнаеньнем, якім-небудзь новым сартовым насеньнем і г. д. Але наша гаспадарка зусім яшчэ не пастаўлена „на ногі“, бедняцкая; да таго-ж я жыву з бацькам, які яшчэ на гэта ідзе ня так ахвотна.

Дык вось ці ня можаце як-небудзь дапамагчы ў гэтай справе. А я пастаўлю вопыты самым лепшым спосабам і аб выніках абавязкова напішу ў „Плуг“.

Сел. **М. Тарасенка**.

(*Бракава, Магілеўшчына*).

**) Спасылаюся толькі на „Плуг“, бо яго лягчэй дастаць кожнаму селяніну.

| ПЫТАНЬНЕ, АБО ТЭМА. | Што трэба прачытаць, каб правільна зразумець пытаньне і правільна яго правесьці да канца. |
|---|---|
| 7. Скарыстаньне кампосту попелу на ўгнаеньне пад бульбу, ці караньплоды. | „Плуг“ 25 № 1 (ст. 5-7); № 7 (ст. 9-10) і 26 г. № 2 (ст. 4) |
| 8. Скарыстаньне торфу на ўгнаеньне. | „Плуг“ 25 г. № 5 (ст. 3-4) і 26 № 2. |
| 9. Баранаваньне і ўгнаеньне сенажаці (тамасшлак і 30 проц. калійная соль) | „Плуг“ 25 г. № 2 (ст. 13-15); № 3 (ст. 7-8) і 26 г. № 1. (ст. 7-9). |
| 10. Вапнаваньне поля. | „Плуг“ 25 г. № 4 (ст. 18) і № 7 (ст. 20-22). |
| 11. Мінэральныя ўгнаеньні пад жыта ці ярыну. | „Плуг“ 25 г. № 4 (ст. 17-18) і № 8 (ст. 11-13). |
| 12. Пасеў сартовага насеньня. | „Плуг“ 25 г. № 9 (ст. 22) і 26 г. № 2 ст. 5-9). |

На гэтых пытаньнях можна і затрымацца.*) Кожны гаспадар можа выбраць сабе любое пытаньне. Можна-ж узяць і іншае пытаньне, якое ня ўходзіць у гэты сьпіс. Аднак найбольш трудным трэба лічыць пытаньні з мінэральнымі ўгнаеньнямі, але і тут селянін можа саўладаць, калі парадзіцца з агрономам.

Для вопыта выбіраецца вучастак поля з аднолькавай глебай, аднолькавай папярэдняй расьлінай, угнаеньнем і г. д. На гэтым вучастку наразаюцца вопытныя дзялянкі і дзялянкі для паверкі (контролю). Дзялянкі можна браць любой велічыні, абы добра было пералічваць ураджай на дзесяціну. Выраб поля, пасеў і прыборка ўраджаю праводзяцца аднолькава ў адзін і той жа час па ўсяму вопыту.**)

Вядомая рэч, што селяніну, які бярэцца ставіць вопыт ці хаця робіць якую-небудзь спробу, трэба ўсе працы праводзіць вельмі акуратна і старанна. Асаблівая-ж увага патрэбна ў час прыборкі ўраджаю, каб правільна ацаніць карысьць новага мерапрыемства. Ураджай трэба дакладна падлічыць і запісаць, каб з гэтымі лічбамі можна было рабіць параўнаньне на другі і трэці год, калі вопыт будзе працягнуты. На добры і дасканалы сялянскі вопыт можа спасылацца і агроном у сваёй працы. На ім жа будуць вучыцца і другія сяляне.***)

**С. Тупяневіч.**

*) Па іншых галінах сельскай гаспадаркі пытаньняў няма. Аб гэтым патрэбна спэцыяльная гутарка.

**) Як ставіць вопыты гл. „Плуг“ 1925 г. № 8, ст. 15-17.

***) Аб усіх выніках сваіх досьледаў сялянам трэба пісаць у часопіс „Плуг“ ці газэту „Бел. Вёска“.

# Вопыт—лепшы агітатар.

З кожным днём пачынае расьці сельская гаспадарка. Кожны селянін накіроўвае ўсе свае сілы на тое, каб яго гаспадарка давала як можна больш прыбытку. Асабліва-ж уважліва і зорка глядзіць селянін за другім суседам, які пачынае ўводзіць у сваёй гаспадарцы што-небудзь новае і карыснае. Тут я прывяду два маленькіх прыклады, якія кажуць аб гэтым. Леташні год мы ў сваёй гаспадарцы *пачалі пераходзіць* на *шасьціпалёўку*. Наш сусед, поле якога мяжуе з нашым, трохі пасьмейваўся з гэтага „ноўшаства“, але сёлета, як убачыў на справе, што *шасьціпалёўка пачынае даваць больш прыбытак*, чым яго трохпалёўка, як убачыў карысьць ад канюшыны, то зараз пакладае ўсе сілы на тое, каб атрымаць у крэдытовым таварыстве грошы (яго гаспадарка самая бедняцкая) на куплю насеньня канюшыны, і *каб завесьці таксама шасьцёхпалёўку і пасеяць канюшыну ў полі* хоць на 3/4 дзес.

Той-жа прыклад і з лубінам. Нашы бракаўскія сяляне да гэтага часу ня сеялі лубіну. Адзін гаспадар пасеяў на спробу маленечкі кавалак пад жыта. Другія гаспадары, убачыўшы карысьць гэтай расьліны, ў 1925 годзе ўжо чуць не на палову сеялі лубін. Гэтыя факты кажуць за тое, што селянін усякую карысную навіну ўводзіць толькі тады, калі ён убачыў яе карысьць у сябе ці ў суседа.

Вось чаму ўлада павінна зьвярнуць асаблівую ўвагу на тых гаспадароў, якія ставяць на сваіх палёх с.-г. „вопыты“, і тым ці іншым спосабам ім дапамагаць у гэтай працы. Раённым-жа агрономам вясной трэба будзе накіраваць свой прамень у глухія вёскі і залажыць на сялянскіх палёх як мага больш паказальных вучасткаў (з мінэральнымі ўгнаеньнямі, сартовым насеньнем і г. д.).

Наш селянін, асабліва ў сучасны момант, пільна шукае спосабаў лепшага вядзеньня гаспадаркі, а іх ён убачыць у сябе пад бокам.

Селянін **М. Тарасенка.**

(С. Бракава, Магілеўшчына).

---

# Мая практыка з мінэральным угнаеньнем.

Мне захацелася паглядзець, які ўплыў зробіць мінэральнае ўгнаеньне—супэрфосфат. Дзеля гэтага вясной 1924 г. я адвёў адну дваццатую частку дзес. поля, якое разьбіў на два роўныя вучасткі. Гэтыя вучасткі ляжаць на роўным месцы і маюць аднолькавую глебу. На адзін з вучасткаў (на 1/40 дзес.) я вывез 3 вазы конскага гною па 20 п. кожны, што дае 2.400 пуд. гною на дзес.; на другі-ж вучастак высеяў 25 фун. супэрфосфату па разьліку 25 пуд. на дзес., і пасеяў ячмень з падсевам канюшыны. Супэрфосфат я рассеяў за суткі да пасева ячменю і прашоў адзін раз з бараною. Ячмень быў аднолькава добры, як па гнаі, так і па супэрфосфату. У 1925 г. я зьняў два ўкосы канюшыны, якія таксама былі добрымі і не адрозьніваліся адзін ад другога, як па росту, так і па гушчыні.

Восеньню 1925 г. я зрабіў ужо спробу з калійнай сольлю, якую высеяў пад жыта.

Селянін **І. Гарбач.**

(Вёска Шаловічы, Случчына).

# Аб сэрадэлі.

(*З уласнае практыкі*).

У сучасны момант пытаньне аб кармовых расьлінах у сельскай гаспадарцы зьяўляецца неадкладнай задачай. Кармовае пытаньне знаходзіцца ў самай цеснай сувязі з жывёлагадоўляю, яе паляпшаньнем і разьвіцьцём. Вядома, агрономы ў гэтым напрамку робяць вельмі шмат. Я-ж павяду гутарку аб сэрадэлі, якая ўсё больш і больш здабывае сабе пашану сярод сялянства.

Гэта расьліна можа даваць добрыя ўраджаі і на пескавых глебах, або на такіх, дзе другія расьліны даюць малы ўраджай ці зусім гінуць. Сэрадэля лічыцца вельмі цэннай кармовай расьлінай. Даючы яе каровам, удоі малака значна павялічваюцца. Застаўшыяся-ж у зямлі карэньні сэрадэлі добра ўгнойваюць глебу. Салома сэрадэлі (пасьля малацьбы) зьяўляецца яшчэ добрым кормам, чаго ня можна сказаць пра салому канюшыны і вык і.

Цяпер скажу, як я завёў сэрадэлю. У 1924 годзе на выстаўцы ў „Дзень Ураджаю" я атрымаў пуд насеньня сэрадэлі. Вясною 1925 году, як стала магчыма выйці на поле, я высеяў яе па жыце і прашоў бараною ў адзін сьлед, а адзін загон пакінуў небаранаваным. Дзе сэрадэля была забаранавана, там яна добра ўзышла і дала добры ўраджай сена (з $^1/_4$ *дзес.* я сабраў 4 вазы пудоў па 25). Касіў я сэрадэлю ў канцы верасьня. Пагода была дажджлівая. Каб лепш высушыць, я зрабіў такія азяроды, як і для канюшыны. Высахла сэрадэля добра. Такім чынам, за адзін год я сабраў два ўраджаі: *жыта* і *сэрадэлю*. Вось чаму, калі ў каго няма досыць свае сенажаці і нельга пракарміць сваю скаціну, або мала зямлі, дык трэба ў адзін год браць з зямлі *два ўраджаі;* тады мы забудземся пра нашу бязкорміцу. Зараз надыходзіць вясна, пара падумаць аб пасеве сэрадэлі, каб не старацца ў летнюю пару сенажаці і не касіць на траццяк якое-небудзь балота.

Селянін **А. Карнейчык.**

(Хут. Сарачынава, Меншчына).

---

# Сёлета маем сваё насеньне канюшыны.

Адна з галоўных прычын, якая перашкаджае селяніну ўводзіць травы, гэта дарагоўля насеньня, асабліва насеньня канюшыны. 1924 г. надаеў нам бязкорміцай. Я і бацька парашылі абавязкова пасеяць канюшыну; але як прышла вясна, то капейкі за душою не нашлося. Усё-такі мы купілі 5 фун. насеньня канюшыны. Летам 1925 году я пачаў угаварваць бацьку, каб пакінуць кавалачак канюшыны на насеньне. Бацька хутка на гэта згадзіўся. Як толькі пачала красаваць канюшына, мы яе скасілі на корм, а другі ўкос (атаву) пакінулі на насеньне. Насенны кавалак меў 150 кв. саж. У канцы жніўня канюшына пасьпела. Мы яе скасілі роўненька, у радкі; далей павязалі ў снапы і высушылі ў ёўні не перасушваючы, бо баяліся, каб насеньня ня страціла ўсходжасьці.

Вымалаціўшы, ссыпалі ў мяшкі, а зімою стаўклі ў ступе. Праўда, гэта хоць і марудная справа, але за тое з 150 кв. саж. мы атрымалі 1 п. 20 фун. насеньня. Пры гадоўлі насеньня канюшыны мы выгадалі вось што: *першы ўкос пашоў на сена*, а другі (атава) на насеньне.

Селянін **М. Тарасенка.**

С. Бракава, Магілеўшчына).

# Як сяляне Рафановіч і Лін аб'яднালі свае гаспадаркі.

(*Аб школе для дарослых земляробаў*)

Вучыцца даросламу селяніну, справа ня лёгкая, ён на сваім жыцьці бачыў шмат клопату і цяжкіх дзён.

Бедны селянін больш клапоціцца аб такіх справах, як даходнасьць гаспадаркі, неўраджай, сям'я, хата, адсутнасьць сродкаў і г. д.

Але праз веды, казаў Ленін, мы дасягнем лепшага жыцьця; веды палягчаюць працу чалавека; веды даюць новыя шляхі к дабрабыту чалавека. І вось 47 чал. сялян пашлі вучыцца ў Скрыгалаўскую сельска-гаспадарчую 5 месячную школу. Там вучылі новым способам гаспадараваньня, як апрацоўваць зямлю, як лепш сеяць, даглядаць пасевы, сад, гарод; як атрымоўваць і карміць жывёлу, лячыць яе; як змагацца з с-г. шкоднікамі, як завесьці пасеку, якое месца займае ў прыродзе сельская гаспадарка і г. д.

Скончыўшы пяцімесячнае навучаньне, курсанты паразыходзіліся па сваіх гаспадарках і пачалі працаваць, але кожны ўжо стараўся прыстасаваць да практыкі атрыманыя веды. У гаспадарцы кожнага курсанта, уласнай ці колектыўнай можна адзначыць добрыя пачаткі ў с-г. працы.

У вадных пасеяны караньплоды, канюшына, лубін, выка, сэрадэля ці пераведзена гаспадарка на шматпольле; у другіх да пералічанага трэба дадаць кармленьне жывёлы па нормах, перабудову хлявоў, засаджаны сад, ёсьць гарод, які раней адсутнічаў і шмат іншае.

Сувязь паміж курсантамі і агрономамі стала звычайным зьявішчам, асабліва ў правядзеньні паказальных вучасткаў сярод сялянства.

Але адзін з курсантаў вёскі Асінскае, Лельчыцкага раёну, Рафановіч Антось, будуе нешта іншае і больш цяжкае, чым другія.

Яго гаспадарка складалася з 12 вузкіх палосак зямлі, раскіданых далёка адна ад другой. Рафановіч ня мог раней здаволіць патрэб сям'і. Заробак ад плотніцтва зьяўляецца галоўнай дапамогай для сям'і і гаспадаркі.

Скончыўшы школу, Рафановіч стаў выпраўляць сваю гаспадарку. Пачаў ён з таго, што пераканаў суседа Ліна аб'яднаць свае дробныя гаспадаркі ў адну для супольнай працы.

Праз замену сваіх вузкіх палосак з іншымі суседзямі, яны атрымалі адну гаспадарку. Уперад Рафановіч баяўся браць у крэдыт грошы для палепшаньня гаспадаркі, а цяпер пасьля аб'яднаньня, ведаючы як весьці культурную гаспадарку, атрымаў з банку грошы на куплю лепшай каровы, сартовага насеньня, плуга, бараны.

Якая выгада ад аб'яднаньня гаспадарак сялян відаць з таго, што дзякуючы клопатам Рафановіча організавана ў глухой вёсцы Асінскае, машыннае таварыства з 16 пайшчыкамі.

Прыклад сялян Рафановіча і Ліна павінен быць карысным для іншых сялян, якія вучацца ў 1926 г. ў 5 мес. школах.

Такія прыклады гаспадараваньня даюць каштоўны ўклад у справе сельска-гаспадарчай будовы ў кірунку культурнага жыцьця нашай заняпалай краіны.

Агроном *Трызна*.




# Дзічка паляўка—аснова нашага садоўніцтва.

Гадоўля дзічак прымае вялізныя разьмеры. На Украіне зпажыўся ў апошні час нават спэцыяльны тэрмін „дзічкагадоўля". Перад намі ў бліжэйшыя 5-10 год ёсьць адказная задача распаўсюджваць мільёны прышчэп каштоўных і трывалых сартоў на моцнай дзічцы.

Перад нашым працоўным сялянствам мы будзем адказны за якасьць тых пладовых дрэў, якія будуць атрымоўвацца ад нашых дзяржаўных, коопэрацыйных і іншых выхавальнікаў.

Нажаль, наша навукова-дасьледчая праца па садоўніцтву толькі пачынаецца і садоўніцтву, як-і-наогул карысным галінам сельскай гаспадаркі, пакуль што адводзіцца нязначнае месца паміж яе іншых галін. Нажаль, сродкі на дасьледаваньне садоўніцтва (на вывучэньне сталых і каштоўных сартоў) на 1926 год не знашліся і мы заплюшчыўшы вочы павінны будзем усоўваць сялянству сарты пладовых дрэў, якія магчыма ня будуць мець ганддёвай вартасьці.

Пытаньне аб дзічках пладовых дрэў абгаварваецца на старонках садовых часопісаў амаль 50 год. І тут, як і ў іншых справах, рабілася вялікая памылка. Спэцыялістыя сядзелі ў Ленінградзе альбо ў Маскве і пісалі аб тым, як разводзіць сады ў Крыму, Туркмэністану і г. д. Часам і цяпер гэта памылка робіцца. На гэта мы рашуча адказваем: толькі вынікі дасьледчай працы па садоўніцтву ў межах Беларусі, толькі шматгадовы вопыт нашых дасьледчыкаў садаводаў-сялян можа нам даць адказ на балючыя пытаньні карысных галін сельскай гаспадаркі.

Усім вядома, што нашы векавыя яблыны дзядамі прышчэпліваліся на лясных дзічках. Але бадай 50 год таму назад у спэцыяльных часопісах пачалі абгаварваць пытаньне аб тым, што нібы лясныя дзічкі маюць недахопы: *слабыя карэньні, нядружнае ўзрастаньне* і г. д. Пачалі раіць і пашыраць гадоўлю *сібіркі, кітайкі* і *каўказкіх яблынь* (дзеля падвою). Гэтыя парады ня мінулі і Беларусі. Некаторыя садаводы, спрабаваўшыя ў выхавальніках пасеў рознастайных відаў дзічак, атрымоўвалі тыя ці іншыя вынікі. *Сталыя вынікі аб дзічках-падвоях магчыма атрымаць праз 15-30 год пасьля пасадкі прышчэпаў у сад.*

Досьледы нашы і нашых супрацоўнікаў у межах Віцебшчыны і Аршаншчыны зусім выразна падкрэсьліваюць, што б. панскія сады (яны атрымоўвалі дрэвы з Рыгі, поўдня і г. д.) на 25-30 годзе гібеюць. Прычына выразна: дзічка-падвой ня з тутэйшай паляўкі, але з замежнага насеньня зусім не адпавядае нашым варункам. Аб дзічках сібіркі і кітайкі нібы нічога дрэннага сказаць ня можна было, бо ў першыя гады ўзрост гэтых дзічак у выхавальніках больш шпаркі (буйны), як паляўкі.

Мы ставім пытаньне так: як адчуваюць сябе нашы сталыя сарты яблынь на падвоях кітайкі і сібіркі ўзросту 15-30 год? Адказ і вельмі сталы для варункаў Віцебшчыны дае нам Я. К. Мароз, калі ён пісаў нам у 1925 годзе: „Прышчэпы на кітайскай дзічцы растуць вельмі моцна; дзеля гандлёвага выхавальніка лепшага вымагаць нельга. Толькі праз дзясятак год ужо відаць недахопы кітайкі. У 1889 г. быў высаджаны значны лік антонаўкі і 23 апорты, прышчэпленыя да кітайкі. Праз 5 год 7 дрэў антонаўкі зламаліся з пладамі. Некалькі яблынь мелі зусім тонкую шыйку. Тое самае здарэньне было з дрэвамі нашага выхавальніку на кітайскай дзічцы,якія высаджваліся ў суседзяў. Праз некалькі гадоў трэба было прышчэпліваць да нашай паляўкі“.

Пры дасьледаваньні садоў Я. Мароза (увосень 1925 г.) мы ўпэўніліся, што яблыні на дзічцы кітайкі абрасьлі карнёвымі паросткамі, ад якіх няма ратунку. Сарты-ж на нашай паляўцы добра сябе адчуваюць.

Аб сібірцы можна сказаць, што гэты дзічок раней пачынае пускаць сокі, як нашы сарты яблын, і раней заканчвае свой узрост увосень. У Фатыні за шмат гадоў нашы сарты на сібірцы гінулі. (Разьмер артыкулу не дазваляе шырока абгаварыць пытаньне аб дзічках). Дададзім толькі, што ў Нямеччыне лепшыя гандлёвыя выхавальнікі (як Шпэта ў Бэрліне і г. д.) зьвяртаюць увагу галоўным чынам на мясцовую дзікую яблыню і ігрушу. Цэнтральны Дзяржаўны пладовы выхавальнік у Мліеве на Украіне вядзе гадоўлю дзічак толькі з лясной яблыні Курскай і Варонескай губ.

Наша насеньне паляўкі (з Ельні, Калінінскае акругі) на абласной Маскоўскай дасьледчай садовай станцыі ў 1925 г. дало найлепшыя вынікі (добрыя ўсходы, моцны ўзрост і карэньні) у параўнаньні з насеньнем іншых раёнаў СССР.

Горацкая дасьледчая садовая станцыя аб нашай паляўцы можа даць найлепшы водзыў і раіць па нашых акругах прышчэпліваць яблыні толькі на мясцовай дзічцы яблыні.

**М. І. Бурштэйн.**

(Горкі, с.-г. Акадэмія).

# Угнаеньне садовых дрэў.

**Сад, як і кожная расьліна на полі, бяз угнаеньняў расьці ня будзе.**

Толькі бабовыя расьліны (гарох, бабы, выка і інш.) бяруць азот з паветра пры дапамозе бактэрыяў, якія жывуць у клубяньках на каранёх гэтых расьлін. Усе-ж іншыя расьліны, у тым ліку і пладовыя дрэвы, карыстаюцца ўгнаеньнямі. Угнойваючы глебу, мы ўносім у яе і тыя матэрыі, якімі жыве дрэва. Аднак, пры ўгнаеньні трэба клапаціцца, каб былі ўнесены ў глебу толькі азот, калі і фосфар. Іншыя матэрыі заўсёды маюцца ў глебе.

*Азот* у жыцьці расьлін мае значную ролю. Ён дапамагае разьвіцьцю лісьцяў і гэта выклікае ўзмоцнены рост дрэва. Азот робіць уплыў і на велічыню пладоў. Пры ўнясеньні ўгнаеньняў, якія багаты на азот, на садзе бываюць буйныя плады. Аднак, пры вельмі значным, угнаеньні адным азотам (салетра, гнаёвая жыжка і інш) трэба быць асьцярожным, бо ад гэтага дрэвы будуць позна спыняць свой рост увосень і аднагоднія паросткі не пасьпеюць вызрэць і памерзнуць.

На такіх-жа глебах дрэвы лёгка хварэюць і мала пладаносяць. Загэтым, дрэвы, якія маюць вельмі добры рост, не павінны ўгнойвацца залішне толькі адным азотам; яны патрабуюць яшчэ фосфарных (тамасшлак, супэрфосфат), і калійных (попел, каініт, калійная соль) угнаеньняў, а таксама вапны.

*Фосфар* для пладовага дрэва зьяўляецца неабходным угнаеньнем. Ён спрыяе пладанашэньню і выклікае багатае ўтварэньне пладовых почак на дрэве. Буйны рост дрэва на глебах багатых азотам можна аслабіць фосфарным угнаеньнем і тым самым прымусіць дрэва лепш пладанасіць. На глебах бедных фосфарам, пладовыя дрэвы застаюцца малаўраджайнымі, хварэюць, адсыхаюць пладовыя галінкі, плады позна дасьпяваюць і застаюцца кіслымі.

*Калі і вапна* таксама маюць вялікую ролю ў жыцьці пладовага дрэва. Яны дапамагаюць высьпяваньню самага дрэва (драўніны) і робяць яго трывалым супроць маразоў. Здаровае лісьце бывае толькі тады, калі ў глебе ёсьць досыць калія. Калі, як і фосфар, дапамагае ўтварэньню пладовых почак, робіць уплыў на велічыню пладоў, іх смак, пах і афарбоўку.



Як ідуць карэньні яблыні ў зямлі. А. Каранёвыя валаскі.

*Як класьці ўгнаеньні пад пладовыя дрэвы.* Вельмі часта сярод сялян сустракаецца гэткі спосаб: ускопваюць глебу навокал ствала на 1-½ арш., кладуць гной і лічаць, што дрэва ўгноена. Гэта зусім няправільна. Вядома, што пладовыя дрэвы бяруць з глебы пажыўныя матэрыі толькі валасочкамі, што на карэньні; гэтыя валасочкі знаходзяцца не каля ствала, а значна далей. З малюнка можна бачыць, што ў дарослага дрэва карэньні, якія знаходзяцца паміж кругамі 1-4, тоўстыя; яны не бяруць пажыўных сокаў, а толькі праводзяць іх у лісьце. Карнявыя-ж валаскі знаходзяцца галоўным чынам паміж кругамі 4-8. Калі палажыць гной каля пладовага дрэва толькі на плошчы абмяжованай кругамі 1-4 (гэтак і робяць сяляне), дзе няма каранёвых валаскоў, то ад такога спосабу ўгнаеньня ня будзе ніякае карысьці. Дзеля правільнага ўгнаеньня гной (а таксама і мінэральнае ўгнаеньне) неабходна раскладваць так, каб ён быў паложаны на плошчы, дзе знаходзяцца каранёвыя валаскі (паміж кругамі 4—8). З гэтага яшчэ ня значыць, што зямля навокал ствала не павінна ўгнойвацца; гэта плошча таксама павінна быць угноена, але толькі адным гноем і ў меншай колькасьці (мінэральнае ўгнаеньне сюды класьці бескарысна). Гной паляпшае глебу, а гэта неабходна, як для каранёвых валаскоў, так і для тоўстых каранёў. Карані ў пладовых дрэў адыходзяць ад ствала значна далей

(у $1^{1}/_{2}$-2 разы), чым галіны кароны і загэтым дарослыя сады лепш усяго ўгнойваць па ўсёй плошчы. Угнаеньне ня трэба заворваць глыбей 3-х вяршкоў, бо гной тады кепска перагнівае; але ня можна, каб ён і тырчэў з-пад зямлі.

(Горкі, с-г. Акадэмія). Аграном **А. Карлсон.**

---

# Барацьба са шкоднікамі ў садзе і гародзе вясною.

### Лепш папярэдзіць з'яўленьне шкоднікаў, чым змагацца з імі.

Вясной вядзецца важнейшая праца ў садох і часткаю гародах па барацьбе са шкоднікамі. Пры гэтым, веснавы час можна падзяліць на тры пэрыоды.

*1 пэрыод.* Дрэвы трэба ачысьціць ад старой кары і моху, абрэзаць (калі гэта ня было зроблена ўвосень) галіны, на якіх ёсьць яйкі пярсьцёнкавага шоўкапрада, паздымаць гнёзды баярышніцы і залатагузкі. Затым, дрэвы трэба пабяліць аднэй вапнай альбо вапнай зьмешанай з сінім каменем ці жалезным купаросам. Мешаніна гэта робіцца так; бярэцца 3-4 фунты нягашанай вапны на адно вядро вады (вапну перад ужываньнем абгашваюць), а затым дадаюць сіні камень *(2-3 лоты на вядро вады).* На 10 вёдзер вапеннага малака кладзецца 1 фунт сіняга каменю. Жалезнага купаросу бяруць 3 фунты на вядро вады і ўліваюць у вапеннае малако. Гэтай мешанінай апырскваюць дрэвы або абмазваюць ствалы і галіны.

Лепшы ўплыў сіняга каменю з вапнай. Вапна добра зьністажае грыбкі, мох, лішаі, яблынавых даўганосікаў і інш.

Разбаўлены жалезны купарос бяз вапны таксама зьністажае садовых шкоднікаў. Прыгатаўляецца ён так: бяруць 0,341 фунт. жалезнага купаросу на вядро вады і туды прысыпаюць $^{1}/_{2}$ фунта жытняй мукі, з якой раней быў прыгатаваны клей.

Можна яшчэ апырскваць або змазваць дрэвы растворам карасіны з вапнаю ці мылам. Гэта добра нішчыць ліставатых тлей і іншых кузурак.

Для першага саставу бяруць 3 фунты карасіны і 1 фунт нягашанай вапны на вядро вады. Спачатку вапну адгашваюць, а пасьля ўліваюць карасіну. Мешаніна моцна ўзбаўтваецца венікам. Для другога саставу (карасіна і мыла) бяруць $^{1}/_{2}$ вядра рачной гарачай вады і распушчаюць у ёй 1 фунт мыла, а затым уліваюць 6 фунтаў карасіны. Пасьля гэтага мешаніну моцна ўзьбіваюць венікамі і прыліваюць яшчэ вядро вады.

Першы раз сад апырскваюць парыскай зеленьню проці пладажоркі. Дзеля гэтага бярэцца 3 залатнікі парыскай зелені і 3 залатнікі нягашанай вапны на вядро вады. Вапну трэба спачатку адгасіць, а затым разбавіць вадой. Парыскую зелень разьмешваюць асобна ў вадзе і ліюць у вапеннае малако.

Замест парыскай зелені можна браць джыпсін. Джыпсін добра трымаецца на лістох і ня шкодзіць дрэвам. Пры ўжываньні джыпсіну няма патрэбы ў вапне. Бяруць джыпсіну 3—6 залатнікоў на вядро вады. Можна браць і большую колькасьць, але тады апырскваньне будзе каштаваць даражэй.

*2 пэрыод.* У тым выпадку, калі ня гледзячы на апырскваньне раньняй вясной, тлі яшчэ засталіся або належны момант апырскваньня быў прапушчаны, ужываюць мешаніну карасіны з вапнай ці карасіны з мылам, але меншай моцы. Для першага саставу (карасіна з мылам) бярэцца 1/2 фунта вапны на 1 1/2 фунта карасіны. Для другога саставу бярэцца 1 фунт мыла на 1/2 вядра вады і 6 фунтаў карасіны і разбаўляецца чатырма вёдрамі вады.

У гэты пэрыод спаўняецца і другое апырскваньне проці пладажоркі. Проці грыбных хвароб, галоўным чынам, ад паршы пладоў, апырскваюць бардоскай жыжкай. Дзеля гэтага бярэцца 3 фунты сіняга каменю і 2 фунты нягашанай вапны на 10 вёдзер вады. Сіні камень разводзяць абавязкова ў драўлянай альбо ў глінянай пасудзе.

*3 пэрыод.* У той час, калі дрэвы ў садох цьвітуць, іх не апырскваюць. У гародзе якраз у гэту пару пачынаюць вельмі шкодзіць гародныя блохі. З імі вядзецца барацьба рознымі спосабамі. Перш усяго трэба праводзіць наступныя меры барацьбы:

1. Старацца пазьней сеяць гародніну.
2. Выбіраць такія сарты гародных расьлін, якіх блохі ня любяць.
3. Зьністажаць сарніны, бо на іх разводзяцца блохі.
4. Ня сеяць на адным месцы кожны год адну і тую-ж расьліну, а ўводзіць большую разнастайнасьць.
5. Расаду трэба сеяць у скрынках, якія пастаўлены на слупох на вышыні 2-3 арш. ад зямлі.
6. Пасыпаць расьліны попелам, вапнай, табачным пылам, тамасшлакам і нават проста пылам з дарог.

Хэмічныя спосабы—апырскваць парыскай зеленьню і джыпсінам.

Для зьністажэньня капуснай соўкі вясною пераворваюць гарод на глыбіню 3-4 1/2 вярш. і пасьля гэтага барануюць.

З. Сяргеева-Булаўка.

---

# Хто абараняе нашы сады.

Ніякі гаспадар, як-бы ўважліва ён не глядзеў за сваім садам, ніколі ня знойдзе і ня зьнішчыць у ім столькі ворагаў, як які-небудзь дзяцел ці сініца. Цэлы дзень гэтыя птушкі, пералётваючы з дрэва на дрэва, аглядаюць кожную шчыліну на кары і ловяць там кузурак. Таксама карысны і грачы, якія ходзяць за плугам аратага і выбіраюць з зямлі вельмі шкодных чарвякоў майскага хрушча, драцяных чарвякоў, розныя куконччыкі, жукоў і інш.

З нашых птушак зьяўляюцца карыснымі совы і філіны, а з дняўных-карыснымі трэба лічыць сарыча звычайнага і сарыча канюха, дзятлоў, і інш., шкоднымі зьяўляюцца каршуны і інш.

З сьпяваючых птушак, якія кормяцца кузуркамі, карысны аўсянкі, салаўі, сініцы, дразды, шпакі, кукушкі і інш.

З розных жывёлін лічацца карыснымі каржаны, краты, жабы, яшчаркі, вераценьніцы, вожыкі.

Клопат аб ахове карысных жывёлін патрабуе трымацца такіх правіл:

1. Умей адрозьніць карысных жывёлін ад шкодных і сачы за іх жыцьцём.

2. Ня турбуй карысных жывёлін, затым, што шмат якія з іх пужлівыя і ня любяць такіх месцаў, дзе іх непакояць.

Не дазваляй дзецям лавіць і забіваць карысных птушак і трымаць іх у клетках.

4. Май апеку аб гнёздах і прыплодзе птушак і абараняй іх ад сарок, куніц, ласак, кошак і іншых жывёлін.

5. Стаўляй на дрэвах скрынкі-домікі.

6. Садзі каля платоў кустовыя расьліны, дзе-б розныя сьпяваючыя птушкі знаходзілі сабе прытулак.

Самымі лепшымі штучнымі гнёздамі для птушак лічацца кускі дрэва з дупламі. Таксама можна рабіць штучныя гнёзды з дошак. Дошкі, з якіх думаюць рабіць гнёзды, ня трэба габляваць, бо паверхня іх павінна быць шурпатай. Добра пры гэтым дошкі абмазваць вільготнай зямлёй, каб яны ня так былі прыметны. Лётную дзірку трэба вырэзваць такую, каб у яе магла пралезьці птушка.

Вышыня доміка для шпака павінна быць каля 10-12 цаляй, шырыня ў сярэдзіне 5 цаляй, лётная дзірка 2—2½ цалі. Гэты домік трэба ставіць на вышыні 3-5 саж.

**П. Фірсаў.**

---

# Парады па гародніцтву.

**I. Севазвароты на гародзе.** Аднэй з галоўных прычын, якая перашкаджае добраму разьвіцьцю гародніны на нашых сялянскіх гародах, зьяўляецца адсутнасьць севазваротаў.

Практычныя гаспадары і гароднікі даўно заўважылі, што ня ўсе гародныя расьліны добра растуць на сьвежаўгноенай зямлі. У той час, калі адны расьліны па сьвежаму гною растуць добра, другія—кепска. Па сьвежаму гною растуць добра тыя расьліны, ад якіх карыстаюцца лісьцем, напрыклад, капуста, салата і інш. Буракі-ж, морква, рэпа, бручка, рэдзька, гуркі, цыбуля і іншыя расьліны, ад якіх ужываюцца карэньні, лепей родзяць на зямлі, якая была ўгноена ў мінулым годзе, калі пасеяць іх па сьвежаму гною, то яны даюць буйнае лісьце, а карэньні і плады бываюць дробнымі. Гарох, фасоля і боб добра растуць і на трэці год пасьля ўгнаеньня.

Таксама на разьвіцьцё гародніны мае ўплыў і частая зьмена месца для расьлін. Чым часьцей мяняецца месца для расьлін, тым менш шкодзяць ім грыбковыя хваробы, менш бывае шкодлівых кузурак і г. д.

Вось тыя галоўныя прычыны, якія прымушаюць гаспадароў завадзіць севазварот на гародах, хоць-бы і на самых невялікіх.

Лепшым севазваротам на нашых лёгкіх глебах трэба лічыць трохпалёвы. Каб завесьці гэты севазварот, робяць так. Усю гароднюю плошчу падзяляюць на тры роўныя кавалкі, а гародныя расьліны падзяляюць на тры групы. Першая група—*капуста качанная, салата* і іншыя расьліны, ад якіх ужываюцца лісьце; другая—*буракі, морква, рэпа, рэдзька, бручка, гуркі, цыбуля, памідоры* і іншыя расьліны, якія даюць карэньні і плады; трэцяя група—*гарох, фасоль і боб.*

У першы год, калі заснаваны севазварот, трэба ўгноіць усе тры вучасткі гароду і на адным вучастку зьмясьціць першую групу расьлін, на другім другую і на трэцім трэцюю. На другі год угнойваецца ўжо толькі адзін вучастак, на якім у мінулым годзе былі расьліны трэцяй групы і на гэтым вучастку зьмяшчаюцца расьліны першай групы, як

патрабуючыя сьвежага гною. Другая група расьлін зьмяшчаецца (без угнаеньня) на месцы расьлін першай групы, а трэцяя на месцы другой.

| Гады. | Вучасткі | | |
|---|---|---|---|
| | I вучастак | II вучастак | III вучастак |
| 1926 г. | 1 група расьлін-*капуста, салата* і інш. (па гнаі) | 2 група. *Буракі, морква, рэпа, рэдзька, бручка, гуркі, цыбуля, памідоры* і інш. (па гнаі) | 3-я група. *Гарох, фасоля, боб,* (па (гнаі |
| 1927 | 2-я група (бяз гною) | 3 група (бяз гною) | 1-я група (па гнаі) |
| 1928 | 3-я група (бяз гною) | 1-я група (па гнаі) | 2 група (бяз гною) |

На трэці год зноў зьмяняюць месца расьлін так, каб першая група трапіла на месца трэцяй, другая на месца першай, а трэцяя на месца другой і г. д. Гной кладзецца кожны год толькі на той вучастак, які займаецца расьлінамі першай групы, але калі глеба гароду кепская, то патрэбна класьці яго і на другі вучастак, які займаецца расьлінамі другой групы; гной для гэтага вучастку трэба браць абавязкова добра перапрэўшы.

**Гушчыня і спосабы пасеву гароднага насеньня.** Добры рост гародніны значна залежыць ад спосабу і гушчыні пасеву. Лепшым спосабам пасеву трэба лічыць радковы. Для гэтага удоўж градкі робяцца баразёнкі ад 4 да 6 см. (1—1½ вярш.) і ў іх сеюць насеньне. Адлегласьць паміж баразёнкамі (радкамі) і паміж расьлінамі ў радку (пасьля прарыўкі расьлін) павінна быць ня менш вызначанай у табліцы. Калі расьліны сеяць гусьцей, тады ім будзе мала месца і яны будуць расьці дрэнна. **(Гушчыню пасеву гл. табліцу).**

| НАЗВА РАСЬЛІН | Адлегласьць у វяршкох | | НАЗВА РАСЬЛІН | Адлегласьць у вяршкох | |
|---|---|---|---|---|---|
| | Паміж радкамі | Паміж расьлін. у радк. | | Паміж радкамі. | Паміж расьлін у радкох |
| Боб высокі | 10 | 8 | Рэдзька | 6 | 6 |
| „ нізкі | 8 | 6 | Буракі | 6 | 4 |
| Гарох высокі | 8 | 4 | Морква | 4 | 4 |
| „ нізкі | 6 | 3 | Радыса | 3 | 2 |
| Фасоля высокая | 8 | 4 | Салата | 4 | 2 |
| „ нізкая | 6 | 4 | Цыбуля | 4 | 4 |
| Кап. кач. (позная) | 16 | 16 | Гуркі буйныя | 16 | 6 |
| „ (сярэдн.) | 12 | 12 | „ дробныя | 12 | 4 |
| „ (раньняя) | 8 | 8 | Памідоры | 16 | 16 |
| Бручка | 6 | 6 | Гарбузы | 32 | 32 |
| Рэпа | 6 | 6 | | | |

**К. Хабэнка.**

# ПЧАЛЯРСТВА

## Догляд за пчоламі ў беларускім вульлі.

*(Працяг, гл. „Плуг“ № 2.)*

У канцы лютага ў нашай беларускай мясцовасьці бываюць ужо цеплаватыя дні. Калі пчолы непакояцца, то трэба адсунуць падлятковыя дошкі і даць ім абляцецца. Калі на зямлі яшчэ ляжыць сьнег, ці ў лужынах стаіць сьнегавая вада, то перад вульлямі трэба разаслаць саломы, каб пчолы дарэмна ня гінулі. Пасьля аблёту, вечарам ці назаўтра зранку, трэба, не чапаючы гнязда, праз ніжнія дзьверцы ў затворы вымесьці з дна вульля падмор.

Калі-ж будзе больш цёплая пагода і на двары можна стаяць бяз вопраткі, то трэба як найхутчэй агледзіць пчол. Тым пчолам, у якіх мала мёду, трэба дабавіць яго, а дзе вялікае гняздо, то рамкі бяз пчол трэба вынуць; сьмецьце з дна вульля вымесьці і зноў залажыць сенам.

У гэты час вельмі карысна даць кожнай сям'і па аднаму ці паўтара фунты мёду з саліцылавай кісласьцю. На 10 фун. мёду дабаўляецца 1 залатнік саліцылавай кісласьці.

Калі стане яшчэ цяплей і пчолы ўжо вылятаюць за вадой, а некаторыя нясуць пяргу, тады ўжо трэба зрабіць належны агляд, добра выскрабці і выцерці вулей, рамкі і затвор таксама ачысьціць; пагледзець, ці ёсьць мёд у пчол (колькі яго), ці ёсьць матка, якая чарва і якая сіла сям'і. І калі будзе заўважана што-небудзь дрэннае, то трэба зараз жа паправіць. Малыя сем'і, якія не пакрываюць і чатырох рамак, лепш далучыць да другіх; увесь час, пакуль ня стане зусім цёпла, трэба ў вульлёх падтрымоўваць цяплыню і ачышчаць іх. *)

Як толькі сем'і пачнуць павялічвацца і пчолы зьявяцца каля шкла перад затворам, то трэба дабавіць ім па аднэй рамцы сушы і сачыць за тым, каб у вульлі ня было цесна. Далей з павялічэньнем сям'і трэба павялічыць ляток.

У траўні ў вялікіх сем'ях паверх рамак на сотах пачынаюць зьяўляцца беленькія васковыя прыстройкі. Гэта паказвае, што ўжо пара даваць рамкі з штучнай вашчынай. Рамкі можна ўстаўляць з боку гнязда па дзьве і больш.

Пасьля таго, як рамкі ўжо пастаўлены ў гняздо і будуць папоўнены мёдам, а пчолы яшчэ знаходзяць мёд, трэба разсунуць у столі дзьве-тры шчыліны ў палец шырынёй і ўставіць надстаўкі.

Калі пачнуць выходзіць раі і рой прыкладам будзе каля 6 фун., то ён асаджваецца рамак на 8, пры гэтым з старога вульля, які даў рой, добра ўзяць дзьве-тры рамкі з чарвой і яечкамі, а другія рамкі бяруць з штучнай вашчынай і на гэтыя рамкі асаджваецца. Большаму рою трэба даваць і больш рамак.

За раямі (дружакамі), якія маюць маладыя маткі трэба сачыць. Праз паўтара тыдні пасьля пасадкі трэба агледзіць рой. Калі ня будзе

---

*) Аб гэтым больш падрабязна гл. „Плуг“ № 4 25 г. „Пчолы вясною“.

там ні чарвы, ні яечак, а маткі ня будзе відаць, то ў такі вулей трэба ўставіць новыя соты з чарвой і яечкамі. Праз тыдзень ізноў агледзіць яго і калі на ўстаўленых сотах заложаны матачнікі, то знача матка згубілася на аблёце і пчолы выводзяць новую; калі-ж на гэтых сотах няма матачнікаў і яечак, то матка ёсьць, але яна не заплоднена. У такім выпадку не пашкодзіць другі раз уставіць яму сот з яечкамі. За сем'ямі, якія выпушчаюць раі і выводзяць маладых матак, таксама трэба сачыць. Добра мець запасныя маткі і падсаджваць іх у бязматачныя вульлі.

Калі надстаўкі будуць занесены мёдам і на палову закрыты, а мёд яшчэ пчолы носяць, то трэба ўзяць з гнязда 2—3 рамкі, выгнаць мёд на мёдагонцы і зноў паставіць іх у вулей.

Калі мінецца ўзяток мёду (у гэты час пчолы выганяюць трутняў), то трэба перш паздымаць надстаўкі, потым праз тры-чатыры дні калі пчолы ўжо супакояцца, трэба агледзіць і пасастаўляць гнёзды на зіму. Калі-ж тыя рамкі, якія трэба вынуць, будуць з чарвой, то іх трэба пераставіць да затвора, калі чарва выйдзе, іх можна прыняць.

На зіму вялікай сям'і трэба пакідаць 9—10 рамак і каля 1 п. мёду, сярэдняй 7—8 рамак і каля 30 фун. мёду, малой жа сям'і 5—6 рамак, і каля 20 фун. мёду. Сем'і, якія займаюць менш рамак, лепш далучыць да другіх.

Пры выманьні рамак, якія былі з чарвой, гнёзды трэба агледзіць і пакінуць столькі рамак, колькі патрэбна для сям'і, а мёду каб прыпадала каля 4-х фун. на рамку. Рамкі, у якіх больш мёду, трэба паставіць з аднаго боку гнязда пры затворы.

Сем'ям, якім не стае мёду, трэба дабавіць мёду або цукру, але абавязкова трэба гэта рабіць у першай палове жніўня, інакш калі дабаўляць пазьней, то пчолы ня здолеюць закрыць мёд; на незакрытым мёдзе яны дрэнна зімуюць, нават могуць і згінуць.

У пачатку верасьня сем'і трэба абкласьці сенам, ляткі зрабіць вузейшымі, а яшчэ пазьней, калі ўжо пчолы зусім ня будуць вылятаць трэба з бакоў гнязда зьняць па аднэй дошцы і накрыць рушніком, каб даць выхад вільгаці.

Вясной-жа пры першым аглядзе, трэба зьняць рушнік, а дошкі зноў палажыць на месца.

Зімою, раз у месяц, а пад канец і два разы, трэба аглядаць ляткі і ачышчаць іх ад сьнегу і мёртвых пчол; таксама сагнутым з дроту кручком добра выграбсьці іх праз ляток і з дна вульля. Гэту работу трэба рабіць асьцярожна бо пчолы непакояцца.

Селянін-пчаляр **С. Бабейка.**

(Мацкевічы, Случчына)

---

## Пчалярства Беларусі ў 1925 годзе.

### Першае месца ў пчалярнай справе належыць Калінінскай акрузе.

Пчалярства ў Беларусі значна пашырана толькі ў Калінінскай акрузе, дзе лік рамовых вульлёў дасягае 13.018 пчаліных сем'яў і ў параўнаньні з калодамі-дуплянкамі (іх лічыцца 15.282 штукі) складае амаль палову ўсіх пчаліных сем'яў па акрузе. У сярэднім кожны рамовы вулей і вулей-дуплянка давалі мёду 31,7 фун. Усяго-ж мёду ў Калінінскай акрузе сабрана 10.317 пуд. (сюды ўваходзіць 1032 п. ваш-

чыны). На падкормку пчол кожнага вульля давалася толькі 5,4 фун. мёду, а ўсяго на гэту мэту па ўсёй акрузе страчана 1557 п. мёду; таксама вельмі цікава, што пчаляр Калінінскай акругі на кожны вулей траціць 0,35 ф. вашчыны; усяго па акрузе расходвана 113,9 п.

У Калінінскай акрузе, некаторыя пчаляры сеюць для пчол на полі мёданосныя расьліны і знаёмы ня толькі з вядзеньнем пчалярнай гаспадаркі ў рамовых вульлёх і дуплянках, але добра ведаюць і новыя больш даходныя мэтоды пчалярства.

Мне прышлося зарэгістраваць там новыя сыстэмы вядзеньня пчалярнай гаспадаркі (раёвая, мядовая, васковая і мешаныя сыстэмы). Яны дазваляюць пчаляром атрымоўваць ад пчол толькі такі продукт, які зьяўляецца ў іх мясцовасьці больш выгадным.

Пасьля Калінінскай акругі па ліку пчаліных сем'яў ідзе Мазырская, дзе налічваецца 24205 калод-дуплянак і 224 рамовых вульлі. З гэтага боку ў Мазырскай акрузе пчалярная гаспадарка вядзецца, можна сказаць, самым першабытным спосабам: вульлі ставяцца на дрэвах у бліжэйшых лясох і застаюцца бяз усякага догляду.

З пчалярствам другіх акруг Беларусі можна азнаёміцца з табліц

**Лік пчаліных сем'яў па акругах.**

(па даных статыстыкі ў 1925 г.)

| Назва акругі. | Рамовыя вульлі. | | | | Калоды-дуплянкі. | | | | У с я г о. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | У сял. гаспадарках. | У саўхозах. | У колхозах. | У інш. гасп. | У сял. гаспадарках. | У саўхозах. | У колхозах. | У інш. гасп. | |
| Калінін. . . . | 12520 | 207 | 291 | — | 15282 | 10 | 10 | — | 28320 |
| Мазыр. . . . | 186 | 36 | 2 | — | 24205 | 20 | 4 | — | 24453 |
| Менск. . . . | 2232 | 202 | 57 | 16 | 8854 | 10 | 20 | 53 | 11444 |
| Барыс. . . . | 1199 | 14 | 4 | 83 | 6611 | 5 | — | — | 7916 |
| Магіл. . . . | 3475 | 13 | 38 | — | 10163 | 5 | 48 | 12 | 13754 |
| Слуцк. . . . | 6642 | 99 | 123 | 22 | 5369 | 18 | 51 | — | 12324 |
| Бабруйск. . . | 2543 | 174 | 23 | 22 | 5369 | 18 | 51 | — | 12324 |
| Полацк. . . . | 870 | 64 | — | 10 | 16435 | 1 | 4 | 16 | 17400 |
| Аршан. . . . | 2813 | 32 | 3 | — | 3768 | 5 | 8 | — | 6629 |
| Па 9 акр. БССР *) | 32480 | 841 | 541 | 131 | 98612 | 77 | 148 | 94 | 132924 |

*) У Віцебскай акрузе пчалярства пашырана мала.

**А. Гэнжын.**




## Добры вытворнік—палавіна пароды.

„Якое семя, такое і племя“, кажа народнае прыслоўе. Гэта прыслоўе павінен памятаць гаспадар вясною, у час злучкі сваёй скаціны.

Добрыя і дрэнныя якасьці скаціны аднолькава перадаюцца прыплоду. Добрай-жа жывёлы ў нас мала, а паляпшаць яе трэба; загэтым, вельмі важна выбраць добрага быка, які адзін абслугоўвае многа матак. Калі кожны селянін ня можа завесьці добрую карову—матку, то разам 40-50 гаспадароў ужо могуць купіць або выгадаваць аднаго добрага быка. Гэты бык акупіць сябе сваім патомствам. Ня трэба таксама скупіцца на плату і за злучэньне з завадзкім ці добрым быком; гэта трата хутка вернецца з лішкам. Добры, вялікі жарабок дасьць і жарабя трывалае і рослае; гэта верна адносна ўсіх жывёл. Як-жа павінен селянін выбіраць быка і чаго ад яго вымагаць? 1) Бык павінен быць здаровым і мець добры касьцяк; гэта можна бачыць па нагах; 2) трэба даведацца, якое патомства дае гэты бык, бо часта бывае, што жывёла сама добрая, а патомства дае дрэннае. І тут наша гора ў тым, што мы ня ўмеем захоўваць і цаніць добрых быкоў; у нас карыстаюцца быком вельмі кароткі час, бо скарыстоўваюць яго няправільна, што асабліва часта бывае пры вольным злучэньні.

У Амэрыцы і Ангельшчыне лепшыя завадзкія жарабкі пакідаюць пасьля сябе 3.000 шт. прыплоду, мы-ж ад найлепшых жарабкоў атрымоўваем толькі дзясяткі жарабят.

Бык або жарабок у сваім прыплодзе на 4-6 годзе племяннай працы толькі канчаткова пазнаецца і ацэньваецца, а ў нас ён у гэты час ужо прадаецца або ідзе пад нож; затым мы заўсёды маем няўдачы племяннай працы. Ацаніць быка можна толькі тады, калі будзем ведаць яго продкаў. Напрыклад, калі мы ведаем, што матка быка была малочнай каровай і матка бацькі таксама, то ўжо шмат даных за тое, што такі бык будзе даваць малочных кароў. Пры злучэньні скаціны заўсёды трэба браць пасьведчаньне, дзе-б было паказана, з кім была злучана матка.

Што-ж трэба патрабаваць ад добрага вытворніка?

*Коні.* Мясцовы конь малы і маласільны; знача жарабок павінен даць патомству рост, вагу і сілу. Для гэтае мэты могуць служыць: арлоўскі рысак, бэльгійцы, а таксама і фіны. Кожны-ж гаспадар павінен сам вырашыць для якой мэты і які конь яму патрэбен; калі больш лёгкі, то прыпускаць арловеца; калі цяжкі, то—бэльгіеца і г. д.

*Буйная рагатая скаціна.* Тая карова схадней у гаспадарцы, якая дае больш малака; знача на племя трэба старацца пакідаць найбольш малочных кароў, дзеля чаго неабходна, каб матка была малочная і каб бык быў ад малочнай каровы. Калі свая карова не малочная, а цёлку

ад яе трэба пакінуць на племя, то трэба памяняць цёлку і ўзяць на гадоўлю цёлку ад малочнае каровы; лепш не паскупіцца і даплаціць, але абы дастаць, добрую карову праз $1^1/_2$—2 гады. Раней пры выбары быка ганяліся выключна за завадзкімі і часта памыляліся. Цяпер-жа, калі завадзкой скаціны ў нас засталася мала, то ганяцца за пародай ужо зусім не даводзіцца; доволі ведаць, які прыплод дае бык, знаць ці былі яго продкі малочныя. Калі завадзкі бык будзе ад такіх бацькоў, то ён цэнны; калі-ж яго парода выяўляецца толькі надворным выглядам, то ён можа быць і малакаштоўны.

*Сьвіньні.* Дзякуючы скарасьпеласьці і пладавітасьці, паляпшаць сьвіней хутчэй і прасьцей.

Лепшай пародай для палепшаньня мясцовай сьвіньні зьяўляецца вялікая і сярэдняя ангельская белая парода.

Ад злучэньня мясцовай сьвіньні з такім кноразам парасяты бываюць вялікія і хутка растуць пры палепшаным кармленьні.

*Авечкі.* Мясцовая авечка малая і малашэрсная. Для таго, каб палепшыць яе, трэба мясцовую авечку злучаць з баранамі ангельскіх парод, напрыклад, з оксфоршырдоўнамі або раманаўскімі, якія павышаюць вагу авечкі, якасьць і колькасьць шэрсьці.

Пры адсутнасьці ў нас цёплых хлявоў, час злучкі трэба выбіраць такі, каб роды прыпадалі на вясну. Для тых гаспадарак, якія знаходзяцца недалёка ад гарадоў, сходней асеньні ацёл кароў, у кастрычніку. Тады гаспадарка ўсю зіму мае малако і прадае яго па значна большай цане; вясной-жа, калі карова пачынае збаўляць малака, пры выгане на пашу ўдоі зноў павышаюцца.

У племяннной справе таксама трэба зьвярнуць увагу і на спосаб злучэньня. Пры ручным прыпусканьні жывёлы вытворнік захоўваецца больш часу і можа абслугоўваць удвое больш матак. Вялікі % кароў ялавак бывае ад няправільнага спосабу злучэньня. Ня трэба баяцца злучаць з вялікім вытворнікам; трэба толькі зрабіць злучны станок: тады самец будзе апірацца не на матку, а на працягнуты пас.

У Беларусі маюцца дзяржаўныя, саўхоскія, коопэрацыйныя і сялянскія даволі добрыя вытворнікі; пры правільным скарыстаньні іх можна паляпшаць сваю жывёлу.

На ўсё гэта жывёлаводным таварыствам, контрольным саюзам і сялянам трэба зьвярнуць асаблівую ўвагу.

**К. Паніна.**

---

## Выбірайце на завод добрых цялят.

Трэба зьвярнуць увагу нашых гаспадароў на лішнюю трату корму пры гадоўлі цялят, якія ня маюць ніякіх адзнак, што зробяцца добрымі ці хоць сярэднімі па ўдоям каровамі. Я не памылюся, калі буду лічыць, што на пракармленьне цяляці да $1^1/_2$ гадовага ўзросту, у якім сялянскі маладняк ужо становіцца кароваю, каштуе ня менш 100-120 р. За гэтыя грошы можна купіць карову з малаком.

У заможных гаспадарках такая трата ня так прыметна, як у маламоцных, маючых 1-2 каровы. Выгадаваць карову ня так цяжка, а праз 2-3 гады, глядзіш, у гаспадарцы прыбавілася новая карова. Колькі яна каштуе гаспадару, гэта другое пытаньне, але яму цікава,

каб карова была добрай і давала малако. Бяда-ж у тым, што селянін пачынае думаць над гэтым ужо тады, калі карова выгадавана і дае мізэрны ўдой малака. Некаторых гаспадароў, праўда, і гэта не палохае: яны яшчэ маюць надзею, што карова пасьля другога ацёлу будзе даваць больш малака; але тут яны упэўняцца, што яна нічога ня варта.

Здараецца-ж гэта таму, што цялят пакідаюць на завод бяз выбару, ня гледзячы ні на матку-карову, ні бацьку-быка. Ацеліцца цялушка і цяля, не падумаўшы пакідаюць на завод. А сама карова дае 5-6 бутэлек малака і пяць месяцаў ходзіць, як вол (запускаецца), а цяля трэба гадаваць купленым малаком. Сяляне пакідаюць часта цяля і ад каровы, якая кашляе, пацее ў ночы, мае папсутае вымя, дае рэдкае малако, брыкаецца. Як гаспадар убачыць, што з падцёлка нічога ня будзе, дык ён прадае яго за 10-20 руб., або за 1/10 таго, што ён каштаваў самому. Як ні ахвота выгадаваць цяля ад свае каровы, але пры сучаснай дарагоўлі, калі сена каштуе каля 1 руб. і пуд высевак таксама, каля рубля, то гаспадару неабходна быць вельмі асьцярожным пры вырашэньні пытаньня, ці пакідаць цяля ад тае каровы, якая сама ледзь аплачвае корм.

Гадаваць цялят трэба ад добрай і здаровай каровы. Кашаль, апухшае вымя, худоба—гэта адзнакі ня вельмі добрыя. Яны часьцей за ўсё гавораць аб хваробе каровы на сухоты, якія могуць передацца і чалавеку. Калі карова брыкаецца, затрымоўвае малако і інш., то гэта можа перадацца і цяляці.

Цяляці першага ацёлу на завод пакідаць таксама ня трэба; цяля бывае слабое. Ад няўдойлівай каровы гадаваць племя таксама рызыкоўна. Толькі здаровая і малочная карова, злучаная з добрым быком можа даць добрае цяля, калі яно будзе даношаным, вялікім і складным.

Селянін **А. Карнейчык.**

(Хут. Сарачынава, Меншчына).

---

# Як быць з бязкорміцай.

Надыходзіць вясна і амаль на кожным кроку чуеш ад нашага селяніна, што няма чым карміць жывёлу; засталася адна салома, якую скаціна есьці ня хоча.

І, запраўды, гэта адзін з цяжкіх момантаў, які ў большасьці выпадкаў прыходзіцца перажываць селяніну.

Так была справа да гэтага часу і ў нашай гаспадарцы. Пачалі мы з бацькам думаць, як пазбавіцца ад гэтага няшчасьця.

Вядомая рэч, тут дапамог-бы травасеў, але гэтаму перашкаджае дарагоўля насеньня канюшыны.

Мы-ж парашылі разумна скарыстаць тыя кармы, якія мелі. Раз я чытаў кніжку Фрыдоліна „Як карміць жывёлу“ і там заўважыў наступную табліцу: „Спажыўнасьць кармоў“ (яе раім кожнаму селяніну), гэта знача чаму раўняецца па спажыўнасьці 3/4 фун. макухі ў параўнаньні з другімі кармамі. Выходзіць, што 3/4 ф. макухі раўняюцца:

| | |
|---|---|
| 1 фун. *мукі* | 4 фун. *яравой саломы* |
| 2 „ *сена канюшыны* | 5 „ *азімай саломы* |
| 3 „ „ *лугавога* | 6 „ *бульбы.* |

Заўважыўшы гэту таблічку, мы прыгледзеліся да рынку. У нас макуха каштуе 1 руб. 20 кап., сена 1 руб., салома 50 кап., бульба 50 кап. Мы прадалі палову сена па 1 руб., і на гэтыя грошы купілі макухі, за якую плацілі па 1 руб. 25 кап. Выходзіць, што 1 фун. макухі каштуе 3 кап., а фунт сена $2^1/_2$ кап. па спажыўнасьці-ж 3|4 фун макухі раўняецца 3 фун. сена. Тое самае можна зрабіць і з бульбай, саломай, мукой і інш.

А трэба адзначыць, што карова павялічыла ўдой малака ад макухі.[1]) Падругое макуху, ёй лягчэй страўляць, чым салому ці сена; малако-ж бывае жырнейшым. Макухай мы выпаілі цяля; любяць яе авечкі, давалі і сьвіньням.

Цяпер мы забясьпечаны кармамі, якія жывёла надта любіць і якія ў параўнаньні з сенам абходзяцца чуць ня ў тры разы таней.

Раім усім гаспадаром узяцца за гэту справу пачаць ужываць макуху, калі яе можна сходна купіць.

Селянін **М. Тарасенка**.

(С. Бракава, Магілеўшчына).

# Хваробы авечак.

(*працяг.*)

**Лішай**—бывае ў авечак часьцей на галаве, а таксама і на руне, воўна на гэтых мясцох выпадае разам з лускою і хворае месца мае выгляд чырвонага колца, пасярэдзіне якога скура выглядае як бы здаровую.

*Лячэньне*. Выстрыгшы воўну, уціраюць мазь (крэоліну 1 грам, зялёнага мыла 10 грам, ільнянага масла 10 грам); праз 3 дні мазь змываюць цёплаю вадою і ўціраюць шэрую мазь.

Лішаёў лёгка можа набрацца ад авечкі і чалавек, чаму патрэбна пры доглядзе за хворымі часьцей мыць рукі.

**Каросту** ў авечак ляпей лячыць праз купаньне ў процікаросьлівай рашчыне. Робяць скрыню ў зямлі, альбо бяруць проста кадушку ці цэбар і наліўшы ў яго рашчыны лякарства, купаюць у ім авечку. 1) Крэолінавая ванна на 100 авечак: бяруць 5-6 літраў крэоліну і разводзяць у 20-22 вёдрах цеплаватае вады; у гэтай ванне трымаюць авечку мінуты 3-4 і праз тыдзень зноў купаюць у гэткай ванне. 2) Ванна з тытуну: 100 грам тытуну гатуюць у 3-х бутэльках вады, пакуль не застанецца 2-х бутэлек; да гэтага адвару дадаюць 10 бутэлек вады (хопіць на адну авечку). 3) Ванна „Джыквось“: на 5 вёдзер вады бяруць 5 ф. тытуну і 5 ф. попелу; усё гэта гатуецца гадзіны дзьве і ў цёплым адвару купаюць авечак. Перад купаньнем карысна вымыць авечак цяплаватым лугам. 4) Добра лячыць каросьлівых авечак, як і коняй, у газовых камэрах, серкаю.

Апрача гэтых хвароб, авечкі хварэюць і на іншыя заразьлівыя хваробы: на воспу, вуглянку (карбунак) сухоты, шаленства і інш.

Але заўсёды трэба мець на ўвазе, што авечкі часьцей, чымся іншая жывёла, хварэюць наскурнымі хваробамі і высыпкамі. Асабліва шмат страты пацягае за сабою кароста ў авечак. Дзеля гэтага, калі

[1]) Агрономічная навука кажа, што 10 фун. макухі даюць $37^1/_2$ фун. малака, а 10 фун. сена—10 фун. малака; цана-ж макухі даражэй на 20 кап. чым сена.

стрыгуць авечак (вясною і ўвосень), патрэбна ўважліва аглядваць кожную сказіну ці балячку на скуры і тое месца, дзе знаходзіцца якая-колечы чырвань альбо струпок, патрэбна заліваць шкіпідарам і добра абмыць цяплаватаю вадою з зялёным мылам альбо рашчынам крэоліну ці адварам тытуну. **Ів. Серада.**

---

# Хваробы цялят.

*Белы пранос*—самая небясьпечная хвароба маладых цялят, сьмертнасьць ад якой дасягае да 96 проц., г. зн. са 100 захварэўшых здыхаюць 96. Апрача таго, гэта хвароба вельмі заразьлівая і трэба зараз-жа пры зьяўленьні яе аддзяліць хворых з агульнага хлева, які пасьля гэтага добра ачысьціць і зрабіць у ім дэзынфэкцыю.

Адзнакі гэтай хваробы такія: спачатку цяля дрэнна есьць, затым у яго зьяўляецца пранос з рэдкім калам, белага колеру з крывёю; прахварэўшы 1-3 дні, жывёла гіне.

Пры лячэньні хворых цялят, трэба спачатку ачысьціць жывот, даўшы дзеля гэтага 2 або 4 сталовых лыжкі рыцыны. Пасьля гэтага трэба даваць разы два ў дзень па чайнай лыжцы таніну і ва ўвесь час хваробы даваць раствор крэоліну, прыблізна 20 капель на шклянку вады.

*Хвароба пупка* бывае звычайна ў цяляці зараз-жа пасьля зьяўленьня на сьвет. Прычынай гэтай хваробы бывае няўмелае адрываньне пупавіны і заражэньне яе.

Каб папярэдзіць гэту хваробу, пупавіну цяляці трэба абмываць растворам карбоўкі (2 проц.) або растворам крэоліну (2 проц.). Гэтым жа растворам трэба абмыць пупок і захварэўшага цяляці, каб не дапусьціць яго заражэньня.

*Ломкасьць касьцей у цялят* бывае ад няправільнага разьвіцьця яшчэ да зьяўленьня на сьвет ці ад няправільнай гадоўлі. Гэту хваробу выклікае нястача ў корме салей вапны. Затым пры лячэньні такіх хворых цялят трэба прыбаўляць у корм крэйду, высеўкі ці даваць па аднэй чайнай лыжцы раз у дзень фосфарна-кіслай вапны.

Вэтэрынар **Агапітаў.**

---

# Грыбковая хвароба.

*(А к ц і н о м і к о з).*

Грыбковая хвароба ці акціномікоз бывае часта ў Беларусі. Гэта хвароба лічыцца заразнай; ёю часьцей хварэюць каровы, менш сьвіньні і коні. Ад хворай жывёлы могуць заразіцца і людзі.

Акціномікозныя грыбкі вельмі пашыраны ў прыродзе. Яны звычайна заводзяцца на зярне, або на асьцюкох ячменю і жыта.

Заражоным ячменем і жытам скаціну карміць нельга, бо ад іх яна можа заразіцца. Ад хворае жывёлы зараза пераходзіць на здаровую праз гной і подсьціл, таксама і праз тыя рэчы, якія вымазаны гноем хворых.

Акціномікоз часьцей усяго зьяўляецца на костках ніжняй і верхняй сківаіцы. Заражоныя косткі раздуваюцца і робяцца мяккімі. Калі паціснуць іх пальцамі, то косьці ўгінаюцца.

Зьверху на скуры паражонай сківіцы бываюць цьвёрдыя вопухі, часьцей з нагнаеньнем, пры чым гной выцякае з вопуха.

Часта паражаецца таксама і язык, які надта павялічваецца, дзервянее і на ім зьяўляюцца плямы шэрага колеру.

Лечаць акціномікоз так: вырэзваюць і выпальваюць усе вопухі, змазваюць і ўліваюць туды ёдны настой; даюць два разы ў дзень на працягу 4-х тыдняў пойла з *ёдзістым каліем*, якога кладуць 1 зал. кожны раз.

Вылячыць акціномікоз цяжка. Мяса ад такой жывёлы можна есьці. Бракуецца толькі частка, паражоная хваробаю.

Каб не заразілася здаровая жывёла, яе трэба аддзяліць ад хворае і трымаць у асобным памяшчэньні. Увесь гной і подсьціл сабраць і вывезьці, а ў памяшчэньні зрабіць дэзынфэкцыю вапнаю ці карбоўкаю.

Вэтэрынар **Агапітаў**.

---

# Пытаньні і адказы па зямельных справах.

**Пытаньне 24.** Па якой норме трэба надзяляць быўшага арандатара панскай зямлі, якая перадаецца цяпер, як запасны фонд. *Гарасім Хадасэвіч*, (*Барысаўская акруга*).

**Адказ.** Быўшыя працоўныя арандатары той панскай зямлі, якая знаходзіцца ў іх карыстаньні да гэтага часу, маюць такія-ж правы на зямлю, як і ўсе іншыя працоўныя землякарыстацелі. Іх нельга лічыць беззямельнымі, падлягаючымі надзяленьню па найменшай норме. Калі-ж у іх гаспадарцы маецца вельмі многа зямлі, то яна падлягае абрэзцы і гаспадарцы пакідаецца найбольшая норма.

**Пытаньне 25.** Якім зборам павінны абкладацца зямельныя справы, якія рэгіструюцца райвыканкомам (*Мазырская акрземкамісія*).

**Адказ.** Дагаворы аб працоўнай арэндзе зямлі аплачваюцца мытам у разьмеры $^1/_2$% з цаны дагавору за ўвесь яго тэрмін. Усе-ж іншыя справы, якія рэгіструюцца райвыканкомам, напрыклад, аб разьдзеле двара, аб прыняцьці ў гаспдарку новага члена, аб замене зямлі, ніякімі зборамі не аплачваюцца.

**Пытаньне 26.** Ці мае права зямельная камісія, калі яна зацьвярджае проэкт па земляўпарадкаваньню на выдзел двароў з аб'яднаньня, бяз згоды гэтага аб'яднаньня прымаць пастановы аб спагнаньні платы з тых двароў, якія засталіся на месцы, за абмер мяжы ўсяго поля аб'яднаньня (*Аршанская акрземкамісія*).

**Адказ.** Ня мая права бо плата за земляўпарадкаваньне пры ўнясеньні яе ў тэрмін насельніцтвам, бярэцца ў бязспрэчным адміністрацыйным парадку і пры тым толькі з тых асоб, для якіх гэта робіцца.

**Пытаньне 27.** Ці можна лічыць падзяліўшайся такую гаспадарку, якая фактычна разьдзялілася пасьля выданьня асноўнага закону аб працоўным землякарыстаньні, але разьдзел гэты ня быў належным парадкам зарэгістраваны (*Калінінская акруговая земкамісія*).

**Адказ.** Згодна ўвагі да арт. 9 правіл аб парадку правядзеньня разьдзелаў працоўных земляробскіх гаспадарак ад 12 лістапада 25 г. і арт. 3 пастановы Саўнаркома ад 10 красавіка 25 г. аб спыненьні разьдзелаў, усе сямейныя маемасныя разьдзелы двароў, якія былі праведзены фактычна да 7 чэрвеня 25 г. лічацца законнымі, хоць-бы яны і ня былі зарэгістраваны належным парадкам.




## Праца аграномаў вясною.

У сваёй працы па аграномічнай дапамозе сялянству аграномы заўсёды маюць на ўвазе самадзейнасьць самых гаспадароў. Аграномы паказваюць гаспадару шляхі і спосабы палепшаньня гаспадаркі, дапамагчы яму ў гэтым. Гэта і ёсьць галоўныя заданьні ўсіх аграномічных мерапрыемстваў. Аграномы лічаць, што калі сялянства само ня хоча паляпшаць свае гаспадаркі, то аграномічная праца ня можа даць карысных вынікаў.

Пры аграномічнай дапамозе аграномы маюць на ўвазе, каб усе мерапрыемствы маглі дапамагчы многім гаспадаркам, каб яны былі даступны большасьці гаспадарак і адказвалі-б патрэбам таго ці іншага раёну, акругі.

Тут мы застановімся толькі на некаторых плянавых аграномічных мерапрыемствах, якія па часу іх правядзеньня будуць прыпадаць на вясну ці к часу веснавых работ.

*Пашырэньне с.-г. ведаў.* У гэтым годзе галоўная ўвага ў зімняй працы аграномаў была зьвернута на правядзеньне с.-г. курсаў. Яны пачаліся ў большасьці акруг у лістападзе-сьнежні, а ў некаторых і пазьней. Курсы канчаюцца прыкладна ў сакавіку. Вясною намечана правесьці адны-двое спэцыяльных курсаў па садоўніцтву, гароднііцтву і пчалярству. Усяго мелася правесьці да 175 сельска-гаспадарчых курсаў.

Пашырэньне с.-г. ведаў будзе ісьці і праз друк, праз с.-г. лекцыі, гутаркі, экскурсіі летам і г. д.

У гэтым годзе аграномы павінны ўцягнуць членаў сельска гаспадарчых гурткоў у практычную працу. Яны павінны закладваць з вясны паказальныя вучасткі. Ажывіць дзейнасьць с.-г. гурткоў—адно з аграномічных заданьняў г. г.

*С.-г. саветы.* Наладзіць больш правільна працу раённых с.-г. саветаў—чарговае заданьне году. У сакавіку ў большасьці раёнаў будуць склікаты вясеньнія сэсіі раённых с.-г. саветаў. Галоўнымі пытаньнямі тут павінна быць распрацоўка пляну веснавой с.-г. кампаніі ў раёне. Ад таго, наколькі члены с.-г. саветаў зацікавяцца гэтай працай, будзе ў значнай меры залежыць і посьпех с.-г. кампаніі вясною ў раёне.

*Палепшаньне пасеўнага матэрыялу.* Ва ўмовах Беларусі гэта заданьне зьяўляецца адным з галоўных. Палепшанага сартовага насеньня ў нас цяпер зусім мала і ў саўхозах, і ў насельніцтва. Вясною бягучага году можа быць разьмеркавана сярод насельніцтва ня больш 60 тыс. пуд аўса і ячменю (з іх 30 тыс. пуд. могуць абмяняць саўхозы, а 30 тыс. пуд. выдаюць земорганы са зьвернутай насельніцтвам леташняй пазыкі сэлекцыённым насеньнем).

Вось чаму цяпер найбольш даступным спосабам палепшаньня насеньня зьяўляецца ачыстка і сартаваньне зярна. З сьнежня-студзеня ва ўсіх акругах праца па ачыстцы зярна ўжо распачата. Агрономы наладзілі машыны агропунктаў, праз АКРЗА ўцягнуты ў працу сартавальныя машыны саўхозаў і с.-г. коопэрацыі. Цяпер у акругах працуюць каля 165 абозаў па ачыстцы насеньня.

Усяго к пачатку сяўбы наважана ачысьціць насеньня ярыны да 1 міл. 800 тыс. пуд., прыкладна на 50 проц. больш, чым у мінулым годзе, або да 20 проц. усяго пасеўнага насеньня.

Будзе пашыраны контроль над насеньнем, якое прадаецца на рынку, як дзяржаўнымі і коопэрацыйнымі, так і прыватнымі гандлёвымі ўстановамі.

*Паказальныя мерапрыемствы.* Па палявой гаспадарцы будзе закладзена па БССР да 1870 вучасткаў; па жывёлагадоўлі—праведзена паказальнае кармленьне да 920 кароу, паказальная гадоўля да 200 цялят—бычкоў; па садоўніцтву будуць прыведзены ў парадак, як паказальныя, да 200 сялянскіх садоў; па гародніцтву—заложана да 300 невялікіх паказальных гародаў; па пчалярству будзе організавана да 5 акруговых вучэбна-паказальных пасек.

На паказальных палявых вучастках, як і ў леташнім годзе, галоўная ўвага будзе зьвернута на пропаганду мінэральных угнаеньняў, кармовых караньплодаў, пасеву сэрадэлі і лубіну, радковага пасеву. Агрономы на мясцох у гэтым годзе павінны будуць зьвярнуць больш увагі на вучот вынікаў паказальных мерапрыемствах дзеля таго, каб іх можна было скарыстаць у агрономічнай працы.

У працу па закладцы вучасткаў у гэтым годзе мяркуюць уцягнуць больш саміх гаспадароў, якія цікавяцца вопытамі па сельскай гаспадарцы (сяляне-вопытнікі).

Паказальныя мерапрыемствы наважана праводзіць у першую чаргу ў раёнах, якія праводзяць земляўпарадкаваньне і на палёх пасялкоўцаў.

*Працы па пераходу на шматпольле* агрономамі ў гэтым годзе, як і ў мінулым, надаецца больш увагі, сіл і часу. Вясною агрономы павінны будуць правесьці працу па засеву тых шматпольных севазваротаў, якія былі разьбіты ў мінулым годзе. Гэта датыча галоўным чынам шматпольных севазваротаў на пасёлках. Тут агрономы разам з самімі гаспадарамі павінны зрабіць усё, каб атрымаць у час насеньне канюшыны, дамагчыся крэдыту і па пляну севазвароту пасеяць канюшыну і інш.

У гэтым годзе агрономы яшчэ больш дакладна павінны будуць вывучаць гаспадаркі і пасёлкі, што заложылі ці закладаюць севазвароты, каб лепш прыстасаваць немечаныя севазвароты да патрэб гаспадароў.

Усяго ў гэтым годзе па плянах акруг думаюць правесьці пераход на шматпольле на плошчы 155 тыс. дзес.; у гэтым ліку замацаваць раней заложаныя севазвароты на плошчы да 65 тыс. дзес.

*Барацьба са шкоднікамі.* Галоўная ўвага будзе зьвернута на барацьбу з садовымі і гароднымі шкоднікамі; з палявых шкоднікаў на барацьбу з грыбнымі хваробамі і галаўнёй (сажай). Сажа часьцей усяго паражае пшаніцу, авёс і ячмень. Вясною агрономы будуць даваць бясплатна для сялян формалін, які зьяўляецца найлепшым срод-

кам ад галаўні. Будзе пратручана ад галаўні каля 214 тыс. пуд. насеньня; з якіх больш усяго ў Слуцкай і Бабруйскай акругах.

Супроць садовых і гародных шкоднікаў вясною ў трох акругах (Менскай, Слуцкай і Бабруйскай) будуць абсталяваны абозы са сродкамі барацьбы (атрутаю) і апырскавацелямі, прыкладна па аднаму абозу на раён.

*Прэміраваньне насельніцтва за палепшаную сельскую гаспадарку.* К 15 красавіка ў акругах і раёнах павінна быць скончана праца па прэміраваньню насельніцтва за с.-г. палепшаньні згодна інструкцыі НКЗ. Прэміі будуць выдавацца, як і ў мінулым годзе, толькі натурай—насеньнем, машынамі і ўгнаеньнямі.

У гэтым годзе на прэміраваньне павінна быць адпушчана да 108 тыс. руб. (пры ўмовах, што ўвесь с.-г. падатак па Беларусі, адкуль адлічваюцца грошы на прэміі, будзе сабраны поўнасьцю).

Вось галоўныя заданьні, якія стаяць перад мясцовымі агрономамі разам з усімі сялянамі, мясцовымі, савецкімі, партыйнымі і грамадзкімі організацыямі.

**А. Міхайлаў.**

---

# Насенная справа ў гэтым годзе.

Раней галоўным клопатам земорганаў было забясьпечаньне сялянства насеньнем збожжавых расьлін; цяпер жа больш увагі зьвяртаецца на кармовыя расьліны і галоўным чынам на канюшыну, бо ўсё гэта патрэбна для заснаваньня шматпалёвых севазваротаў.

Патрэба на насеньне канюшыны, калі ня лічыць таго, што маюць самі гаспадары, вызначаецца ў 19.800 пуд.*). Усяго-ж у нас ёсьць (цэнтраземсклад і с.-г. коопэрацыя) толькі 9.454 пуд. і чакаецца заказ к 1 красавіка на 4.700 пуд. Такім чынам, увесь запас насеньня канюшыны складае каля 70 проц. плянавай патрэбы. Загэтым селяніну мо' прыдзецца купляць насеньне канюшыны і на мясцовым рынку.

*Насеньня-ж цімафейкі, выкі, сэрадэлі ў нас даволі.* Выку нават можна будзе вывозіць і за межы (у 1925 г. было вывезена больш 150.000 пуд.).

Загатоўка насеньня лубіну пачата на мясцовым рынку. Наважана прызапасіць лубіну 40.000 п. Загатаўцелям неабходна паклапаціцца, каб сваячасова забясьпечыць раёны насеньнем лубіну, асабліва для насенных вучасткаў. Патрэба ў насеньні караньплодаў, якая вызначаецца для кармовых буракоў у 950 пуд., турнэпсу (кармовая рэпа)—230 пуд. і кармовай морквы 70 пуд., будзе поўнасьцю забясьпечана.

*Сартовае насеньне лёну-даўгунца* сяляне будуць атрымоўваць праз с.-г. коопэрацыю, якая робіць запас яго ў 10.000 пуд. Апрача таго, Льноторг прывязе ў Беларусь каля 10.000 пуд. насеньня лёну-даўгунца і будзе прадаваць яго сялянам праз свае канторы і абменьваць на звычайнае семя.

*Насенныя пазычкі аўса і ячменю.* Каб забясьпечыць бяднейшае насельніцтва вёскі насеньнем, у насгупную пасеўную кампанію, організуецца пры комітэтах узаемадапамогі дзяржаўны-грамадзкі насенны фонд. З гэтага фонду сялянам на засеў палёў будуць выдавацца пазычкі насеньня аўса, ячменю і грэчкі. Увосень-жа з новага ўраджаю

---

*) У 1925 г. насельніцтвам было пасеяна сваёй канюшыны 40.000 пуд.

сяляне павінны зьвярнуць пазычанае насеньне, каб з яго складаўся насенны фонд. Цяпер-жа гэты фонд будзе складацца з 1) насенных запасаў і сродкаў камітэтаў узаемадапамогі (каля 165 пуд. яравога насеньня), 2) асыгнаваньня ўлады ў 100.000 руб., на што купляецца 60-65 т. пуд. насеньня і 3) запасаў насеннай пазычкі ў мінулыя гады.

Такім чынам, для забясьпечаньня маламоцнага сялянства насеньнем зярновых расьлін мы будзем мець 230-250 тыс. пуд. насеньня. Пры вызначэньні гэтай лічбы насеньня, Наркамзем меў на ўвазе, што ў Беларусі ёсьць каля 250 тыс. гаспадарак з плошчаю пахаці менш 2-х дзес. і што 20 проц. гэтых гаспадарак патрэбна насенная пазычка. Гэтага фонду для надыходзячай пасеўнай кампаніі будзе даволі.

*Сэлекцыйнае* (сартовае) *насеньне аўса і ячменю* будзе выдавацца насельніцтву земорганамі па ўгаворах. Наважана разьмеркаваць аўса прыкладна 15 тыс. пуд. і 2-х радковага піваварнага ячменю каля 40.000 пуд. Пазычка будзе выдавацца тым сялянам, якія будуць найбольш зацікаўлены ў развядзеньні сартовага насеньня.

На якасьць насеньня пры куплі таксама трэба зьвяртаць асаблівую ўвагу, бо гандляры часта прадаюць селяніну хоць і дзешавей, але дрэннае насеньне: малаўсхожае і засьмечанае насеньнем шкодных расьлін. Бывае, што гандляры прадаюць сялянам замест патрэбнага сорту другі. Пры куплі-ж насеньня кармовых траў і караньплодаў, селянін павінен быў асабліва асьцярагацца, бо тут вельмі трудна праверыць гандляра. Але зараз уладай будзе ўтвораны нагляд за прадажай насеньня. Дзеля гэтага Наркамзем і Наркамунторг к надыходзячай пасеўнай кампаніі выдалі абавязковую пастанову, якая прымушае ўсе ўстановы, што прадаюць насеньне, прадаваць толькі вядомыя ім сарты, якія ўжо праверааны на ўсходжасьць, чыстату і гаспадарчую прыгоднасьць.

Сялянам-жа, калі яны купляюць насеньне, ня трэба забывацца і кожны раз усё гэта пытаць. За продаж насеньня горшага, чым сказана селяніну на складзе, установай (вінаватая асоба) будзе прыцягвацца ў суд.

**М. Еўдакімаў.**

---

# Падрыхтоўка Цэнтральнага с-г. складу да веснавой кампаніі.

Падрыхтоўка да веснавой працы селяніна павінна праводзіцца так, каб сялянства пры надыходзе палявых работ мела на руках усё тое, што неабходна ў сельскай гаспадарцы.

З гэтае прычыны Цэнтраземсклад загадзе закупіў плугі, бароны і іншыя машыны, а з лістапада месяца распачаў працу па набыцьцю насеньня і мінэральных угнаеньняў.

Гэту працу Цэнтраземсклад праводзіць пад лёзунгам далейшага ўзросту сельскай гаспадаркі, здавальняючы яе сартовым насеньнем, мінэральнымі ўгнаеньнямі, с-г. машынамі і г. д.; таксама Цэнтральны склад купляе ў сялян і колектыўных гаспадарках лішкі насеньня палявых траў, сартовага насеньня, аўса, ячменю і г. д. Купля гэтага насеньня ад сялян праводзіцца з сьнежня месяца.

У гэтым годзе можна чакаць ад сялян павялічанага попыту на ўсе пералічаныя рэчы. У зьвязку з гэтым Цэнтраземсклад робіць усе захады, каб свой загатоўчы плян выканаць звыш 100 проц. Гэты плян Цэнтраземсклада зараз дасягае наступнага:

| НАЗВА | Акрэсьлена плянам | Закуплена па ўгаворам | % ад лічбаў пляну |
|---|---|---|---|
| Плугі розныя | 34.633 шт. | 46.701 | 134,5 |
| Асыпнікі | 2.850 „ | 3.390 | 120 |
| Бароны розныя | 5.898 „ | 5.104 | 88,4 |
| Палольн. і культ. | 18› „ | 194 | 105 |
| Сяўнікі розныя | 110 „ | 151 | 137 |
| | | | Сярэдні % 116 |
| **Насенны матэрыял.** | | | |
| Канюшына | 9.200 п. | 7.486 п. | 81,3 |
| Цімафейка | 1.200 „ | 757 „ | 63 |
| Сэрадэля | 4.000 „ | 4.884 „ | 122 |
| Выка | 12.500 „ | 9.314 „ | 74 |
| Лубін | 16.000 „ | 2.811 „ | 19 |
| Гародніна | 40.000 р. | 29.106 р. | 73,5 |
| | | | Сярэдні % 72 |
| **Угнаеньні.** | | | |
| Супэрфосфат | 115.000 | 313.207 | 272,3 |
| Фосфар. мука | 60.000 | 772 | 1,3 |
| Касьцян. мука | 25.000 | 25.009 | 100 |
| Калійная соль | 7.200 | 5.316 | 73,8 |
| Салетра | 2.700 | 3.159 | 117 |
| Тамасшлак | 45.000 | 5.717 | 12,7 |
| | | | Сярэдні % 138,5 |

З табліцы можна бачыць, што падрыхтоўчы плян адносна прылад апрацоўкі глебы і машын выкананы агулам на 116 проц. Мінэральных угнаеньняў таксама нарыхтавана 138 проц. пляну; нехапае толькі фосфарытнае мукі. Апошняя ўжываецца выключна Менскай акругай і купля фосфарытнае мукі прызначалася па пляну толькі для гэтай акругі; але, нажаль, пакуль што гэтага ўгнаеньня купіць не ўдалося: увесь гадавы выраб Сешчанскіх заводаў, якія вырабляюць фосфарытную муку, закуплены яшчэ ў кастрычніку месяцы расійскімі арганізацыямі. Цэнтраземсклад ўсё-ж мае надзею да пасеву азіміны закупіць і фосфарытную муку.

Насеннага матэрыялу да гэтага часу нарыхтавана паводлуг пляну толькі 72 проц. Справа ў тым, што сэзон куплі насеньня выкі і лубіна толькі цяпер пачынаецца. Насеньне-ж канюшыны, цімафейкі і гародніны было ўжо закуплена заграніцай, але з прычыны прыпыненьня ўвозу прыдзецца купляць яго на сваім і саюзным рынку. У зьвязку з гэтым можа стацца, што нарыхтоўка канюшыны ня будзе выканана поўнасьцю. Гароднае-ж насеньне будзе ў хуткім часе закуплена на Украіне.

Трэба адзначыць, што і ў гэтым годзе адчуваецца насенны голад, асабліва ў насеньні кармовых траў; і гэта прымячаецца ня толькі па нашаму саюзу, але і заграніцай. З гэтай прычыны цана на насеньне і сёлета ня будзе меншай, чым у мінулым годзе.

**Бахір.**




# Як організаваць сыраварэньне.

Кожны сялянскі двор, які мае дьзве каровы, можа мець і лішкі малака. Гэтыя лішкі скарыстоўваюцца дрэнна ці зусім прападаюць. Такое скарыстаньне малака ў гаспадарцы ўбытачна.

За лішкі-ж малака пры жаданьні можна мець грошы, толькі трэба ўмець скарыстаць яго. З вёсак, якія знаходзяцца блізка ад гораду (10-15 вёр.) малако выгадней усяго прадаваць у горадзе сьвежым, але організаваным парадкам. Тым жа вёскам, якія знаходзяцца ад гораду далёка (больш 15 вёрст), сходна вясной і летам перапрацоўваць малако ў сыры (галяндэрскі, літоўскі і бакштэйн), а зімою ў сьмятанковае масла. Аднаму гаспадару не магчыма рабіць ні сыры, ні добрае масла. Дзеля гэтага трэба аб'яднацца ў арцелі і малочныя таварыствы. Чым больш будзе сяброў у такім таварыстве, тым больш будзе малака на іх сыраварных заводах і тым дзешавей будзе абходзіцца сабе 1 пуд сыра і масла. Напрыклад, калі дастаўка малака ў сыраварню ў працягу 7 мес. выпасу будзе ў сярэднім 30 пуд. у дзень, то сабекошт 1 пуду сыра будзе каля—9 руб., а пры дастаўцы 15 пуд. малака сабекошт 1 п. сыра будзе каля 14 р. Калі на рынку сыр можна будзе прадаваць па 16 руб. за пуд (сярэдняя цана 1925 г.), то ў першым выпадку 1 п. сыра дасьць прыбытку 7 руб., а ў другім толькі 2 рублі.

Каб правесьці гэта выгаднае мерапрыемства ў жыцьцё, прапаную перш высьветліць наступнае:

1) колькі малака і па якой цане можна будзе зьбіраць кожны дзень на сыраварню;

2) якое памяшчэньне можна прыстасаваць пад сыраварню;

3) ці можна пад гэтым памяшчэньнем зрабіць лядоўню і падвал;

4) ці можна і адкуль наняць майстра-сыравара;

5) дзе ўзяць неабходную суму грошай, каб распачаць справу.

Запісаўшы сабе гэта, трэба пайці да агронома ці кіраўніка бліжэйшага саўхозу і з ім скласьці каштарыс расходу на абсталяваньне заводу і абмеркаваньне даходаў ад сыраварэньня.

Напрыклад, суседнія вёскі могуць даць кожны дзень на сыраварню 30 пуд. малака па цане 80 кап. за пуд. Сыр будзем варыць галяндэрскі. Пачнем сыраварэньне з 1 травеня і скончым 1 лістапада, г. зн. усяго 6 мес. ці 180 дзён. Знача, на сыраварню за гэты час можа быць дастаўлена 30×80=5400 п. малака па цане 80 кап. за пуд, усяго на суму 5400×80=4320 руб. Трэба схадзіць да агронома ці кіраўніка саўхозу з гэтымі лічбамі і разам з ім скласьці каштарыс.

### Каштарыс на галяндэрскае сыраварэньне.

З 5400 п. малака (пры вырабу з 1 п. малака 4 фун. сыру, 1/4 ф. масла падсырнага і 32 ф. сыраваткі) атрымаем:

| | | |
|---|---|---|
| сыру сьпелага (за вылікам 8% усушкі) . | 496 пуд. | 32 фун. |
| масла падсырнага . . . . | 33 „ | 30 „ |
| сыраваткі . . . . . . . | 4320 „ | — |

Расходная частка.

| РАСХОД | Лік | Вага | | Цана | | Сума | | %% амортызацыі | Сума штогоднага пагашэньня | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | П. | Ф. | Р. | К. | Р. | К. | | Р. | К. |
| Малако . . . . . | — | 5400 | — | — | 80 | 4320 | — | — | — | — |
| Закваскі па разьліку 4 р. на 100 п. сыру . | — | 49 | 28 | 1 | — | 49 | 70 | — | — | — |
| Палатна і інш. па разьліку 1 р. на 100 пуд. сыру . . . . . | — | — | — | — | — | 5 | — | — | — | — |
| Апал (дровы) . . . | 3 с. | — | — | 20 | — | 60 | — | — | — | — |
| Асьвятленьне . . . | — | — | — | — | — | 5 | — | — | — | — |
| Сыравар на 6 мес. . . | 1 | — | — | 40 | — | 240 | — | — | — | — |
| Пам. сырав. на 6 м. . | 1 | — | — | 25 | — | 150 | — | — | — | — |
| Арэомэтр Кевека . . | 1 | — | — | 8 | 50 | 8 | 50 | — | — | — |
| Тэрмомэтр Р на 80 . | 1 | — | — | 3 | 50 | 3 | 50 | — | — | — |
| Накладных выдаткаў . | — | — | — | — | — | 100 | — | — | — | — |
| Усяго аднačasных затрат . . . | — | — | — | — | — | 4961 | 70 | — | — | — |
| Дубов. цэбраў у 30 в. | 1 | — | — | 20 | — | 20 | — | 10 | 2 | — |
| Ванна драўл. для астужваньня малака . . . | 1 | — | — | 10 | — | 10 | — | 10 | 1 | — |
| Прэс на 10 галовак . | 1 | — | — | 20 | — | 20 | — | 10 | 1 | — |
| Форм для прэсаваньня. | 10 | — | — | 1 | — | 10 | — | 10 | 1 | — |
| „ „ саленьня . | 20 | — | — | — | 80 | 16 | — | 10 | 1 | 60 |
| Рашот мэталёвых . . | 1 | — | — | 10 | — | 10 | — | 10 | 1 | — |
| Сэпаратар на 20 в. . | 1 | — | — | 175 | — | 175 | — | 5 | 8 | 75 |
| Маслабоек „Вікторын" на 7 вёдз. . . . . | 1 | — | — | 50 | — | 50 | — | 5 | 2 | 50 |
| Маслаапрацовак. . . | 1 | — | — | 25 | — | 25 | — | 5 | 1 | 25 |
| Бутляў у 3 вядры . . | 2 | — | — | 20 | — | 40 | — | 10 | 4 | — |
| „ „ 1 „ . . | 3 | — | — | 8 | — | 24 | — | 10 | 2 | 40 |
| Цэбраў у 3 вядры . . | 4 | — | — | 15 | — | 60 | — | 10 | 6 | — |
| „ „ 1½ „ . . | 4 | — | — | 10 | — | 40 | — | 10 | 4 | — |
| Каўшоў мэталёвых . . | 1 | — | — | 3 | — | 3 | — | 10 | — | 30 |
| Рамонт і пабудаваньне сыраварні (памяшчэньне) | — | — | — | — | — | 150 | — | 10 | 15 | — |
| Пабудаваньне падвала і лядоўні . . . . . | — | — | — | — | — | 200 | — | 10 | 20 | — |
| Усяго выдаткаў на прылады . . . | — | — | — | — | — | 744 | — | — | — | — |
| Усяго на пагашэньне асноўнага капіталу . . . | — | — | — | — | — | — | — | — | 72 | 80 |
| Усяго аднačasных затрат . . . | — | — | — | — | — | 4961 | 70 | — | — | — |
| Усяго выдаткаў на сыраварню . . | — | — | — | — | — | 5034 | 50 | — | — | — |

### Прыбытковая частка.

За 4320 п. сыраваткі будзем мець 126 руб. 60 кап., (1 п. сыраваткі 3 кап.) і за 33 п. 30 ф.—540 р. (1 п. масла падсырнага 16 руб.). Сабекошт усяго выробленага сыру будзе 4357 руб. 90 кап., а сабекошт 1 п. сыру будзе 8 р. 75 к.

Прадаючы 1 п. сыру па 16 руб., 1 п. масла па 20 р. і 1 п. сыраваткі па 3 кап., агульны прыбытак будзе такі:

| | | |
|---|---|---|
| ад продажу | 496 п. 32 ф. сыру . . | 4948 р. 80 к. |
| „ „ | 33 „ 30 „ масла . . | 675 „ — |
| „ „ | 4320 „ сыраваткі (для сябе) . | 129 „ 60 „ |
| | Усяго агульны прыбытак . | 8753 „ 40 „ |
| | Агульны расход . . | 5034 „ 50 „ |
| | Чыстага прыбытку ад вырабу сыру | 3718 „ 90 „ |

Памяшчэньне для сыраварні мо‘ ня прыдзецца будаваць новае, а толькі адрамантаваць; добры-ж падвал знайці цяжка і таму лепш яго пабудаваць. Усе дарагія прылады, як сэпаратар, маслабойка, прэс, цэбры і г. д. могуць служыць некалькі год, затым кожны год трэба выводзіць у расход і паказваць у каштарысе толькі такую суму, на якую яны траціць цану ў год (амортызацыя). Абсталяваць сыраварню трэба поўнасьцю, бо ў іншым выпадку добрага сыру нельга атрымаць, а дрэнны сыр вельмі танна цэніцца на рынку. Перш, чым пачынаць абсталяваньне заводу, трэба наняць майстра, які-б сачыў за абсталяваньнем. Яму прыдзецца заплаціць за 2-3 лішнія тыдні, але гэта неабходна для правільнай пастаноўкі працы.

Схадней усяго пачаць сыраварэньне з красавіка месяца. Адцягненьне будзе ўдаражаць сабекошт сыру.

Усе паказаныя ў каштарысе лічбы ня выдумка. Яны праверany на практыцы. У 1925 г. у саўхозах Беларусі працавала 30 сыраварных заводаў, якія вырабілі каля 6000 п. сыру галяндэрскага і бакштэйну. Форма каштарысу амаль такая самая, як і ў саўхозах. Абсталяваньне сыраварні для галяндэрскага і літоўскага сыраварэньня амаль аднолькавае, а для бакштэйна крыху іншае і каштуе дзешавей.

Вядома, галоўная справа ня ў тым, каб скласьці каштарыс, а ў тым, каб організаваць арцель або таварыства. Каштарыс толькі паказвае на неабходнасьць гэтае організацыі і на выгаду самой справы.

Агроном, да якога трэба зьвярнуцца, скажа вам, якія ўзаемаадносіны павінны быць паміж членамі такога таварыства. Калі таварыства будзе жыцьцёвым, то для пачатку справы яно атрымае і крэдыт у с.-г. банку, або ў якой-небудзь іншай крэдытовай установе, паказаўшы свой каштарыс.

Карысьць ад організацыі такога сыраварнага завода не абмяжоўваецца толькі т мі 3-4 тыс. руб., якія мы атрымаем ад самога сыраварэньня. Мы буд ем мець карысьць і зімой, перарабляючы малако ў масла. Пры гэт м усякі гаспадар будзе старацца атрымаць ад сваёй каровы больш малака, будзе лепш яе карміць і даглядаць.

Усё гэта разам узятае дае чыстага прыбытку ўжо ня 3-4 тыс. р. за год, а ў 3-4 разы больш. Спрабуйце організаваць сыраварэньне. Тады ня будуць казаць, што ў вас „карова на двары, а вада на стале“.

**Агрон. Панін.**

# КРАЯЗНАЎСТВА

## Балоты—наша багацьце.

Балоты ў дзікім стане—гэта плошча з беднай расьліннасьцю, якая мала прыгодна для с.-г. карыстаньня. У большасьці балоты—безкарысныя пустыя плошчы, месцамі годныя толькі для зьбіраньня ягад.

У нас доўгі час глядзелі на балоты, як на не выгодную зямельную плошчу, якая ня мела амаль ніякага значэньня. За апошні час такі погляд зьмяніўся дзякуючы працы нашых балотных вопытных станцый, а таксама шмат чаму навучыў нас і вопыт Нямеччыны, Швэцыі, Даніі і інш. Там значная частка балот абарачваецца ў цэнныя палявыя і лугавыя ўжыткі з вялікімі ўраджаямі збожжавых і кармовых расьлін.

Сялянскае насельніцтва ўпэўнілася ў выгаднасьці і неабходнасьці асушкі і выпрабленьня балот, аб чым сьведчыць вялікі рост мэліорацыйных таварыстваў.

Гэта арганізаванае сялянства будзе мець перамогу нявыгодных зямель.

Вось некаторыя лічбы:

Усіх мэліорацыйных таварыстваў да жніўня 1924 г. было 184 з 7487 членамі і плошчаю зямлі каля 15.000 дзес.

Да кастрычніка таго-году таварыстваў стала 234 з лікам членаў 9648 чал. і з зямельнай плошчы ў 17.238 дзес.

Праца мэліорацыйных таварыстваў, якая накіравана на культуру і скарыстаньне балот, знойдзе ў Беларусі шырокае поле дзейнасьці, бо абшары балот у нас значныя. (Мелі ранейшыя губэрні.)

| ГУБЭРНІ | Плошча балот у дзесяцінах | Балот на 100 дзес. с.-г. плошчы |
|---|---|---|
| Менская . . . . | 1.690.636 | 21,8 |
| Віцебская . . . | 697.626 | 17,8 |
| Магілеўская . . . | 655.515 | 15,3 |

Праўда, плошча балот даволі значна скарацілася; ужо с.-г. перапіс 1917 г. дае толькі 2.000.000 дзес. балот на Беларусі. Але і гэта лічба вялікая, бо на кожныя 100 дзес. прыпадае 12 дзез. балота.

*Скарыстаць балоты ў сельскай гаспадарцы* можна рознымі спосабамі. Балоты тарфяныя могуць быць скарыстаны для здабываньня торфу на апал.

Кажуць, што Беларусь—край лясоў і балот. А між тым у нас на кожныя 100 дзес. агульнае плошчы прыпадае толькі 25 дзес. лесу. Нямеччына, маючы такія-ж суадносіны лесу да агульнае плошчы, адносна лясных багацьцяў лічыць сябе беднай і яшчэ да вайны скары-



стоўвала шмат торфу на апал, а таксама і прывозны лес. Кароткі агляд нашых лясных багацьцяў паказвае, што рана ці позна тарфяны апал будзе ацэнены. Мала цэніцца ў нас торф, і як подсьціл для жывёлы. Тут торф ня горш дарагой саломы, якая звычайна падсьцілаецца, а што датычыць мяккасьці і захаваньня матэрыяў для ўгнаеньня дык тарфяны подсьціл далёка лепшы за салому.

Торф яшчэ можа ўжывацца, як угнаеньне на палёх і, як паказвалі вопытныя станцыі, па якасьці мала чым горшы за гной.

У гаспадарчых адносінах скарыстаньне балот можа даць наступныя выгады: абарачваючы іх у сельска-гаспадарчыя ўжыткі—поле, сенажаць і пашу, мы маем магчымасьць пашырыць зямельную плошчу замест пустых балот.

Асабліва трэба зьвярнуць увагу на пашырэньне плошчаў пад сенажацямі і выпасам.

Наогул, культура балот мае вялікае значэньне для сельскай гаспадаркі, бо дзякуючы ёй можна пашырыць зямельную плошчу і падняць даходнасьць той зямлі, якая да гэтага часу была нягоднай. Асаблівае значэньне вырабу балот трэба падкрэсьліць у нашай рэспубліцы, якая па шчыльнасьці насельніцтва займае амаль што ня першае месца ў саюзе рэспублік. Па падліку проф. Аганоўскага ў заходнім абшары саюзу на 100 дзес. плошчы прыпадае 71 чалавек у той час, як у цэнтральна-прамысловым раёне СССР 70 чалавек, у паўночна-заходнім 45 чал., на Украіне 65 чалавек.

Няма дзіва, калі пры гэткай шчыльнасьці насельніцтва і пры адносна нізкім роўню сельскай гаспадаркі, частка насельніцтва павінна была пакідаць свой край. Ад 1896 да 1909 г. з трох ранейшых губэрняў Беларусі толькі ў Сібір перасялілася 469.000 чал.

Шмат пустэчаў, якія можна абярнуць у с.-г. ўжыткі будуць браць лішак рабочых рук. Вось чаму так ўважліва адносіцца савецкая ўлада да сельскае гаспадаркі і мэліорацыі. Напэўна, у бліжэйшыя гады культура балот у Беларусі стане на моцны грунт і зойме першае месца сярод мерапрыемстваў па падняцьцю сельскай гаспадарк

(Горкі, с.-г. акадэмія). **А. Берзін.**

---

# Рыбагадоўля ў сельскай гаспадарцы.

На Беларусі пры некаторых саўхозах, колхозах і сялянскіх гаспадарках ёсьць сажалкі, якія скарыстоўваюцца толькі для вадапою, мыцьця бялізны і мачэньня лёну.

Між тым, дзякуючы расьлінасьці і жывотным організмам, якія водзяцца ў гэтых сажалках, можна было-б разводзіць там рыбу.

У культурных дзяржавах Заходняй Эўропы, дзе інтэнсыўнасьць сельскай гаспадаркі наогул дасягнула высокага роўню, рыбная гаспадарка зьяўляецца адной з галін сельскай гаспадаркі; сажалкі служаць месцам выкарму рыбы. Так, напрыклад, перад вайной у Нямеччыне было занята сажалкамі 45.800 гэктараў (гэктар 0,9 дзес.), у Аўстрыі 60.616 гэкт., а ў Францыі толькі ў аднэй акрузе Ля-Дамб плошча сажалак раўнялася 10.000 гэкт. Большасьць сажалак гэтых дзяржаў складалі ўжыткі сялянскіх гаспадарак.

Па прыкладу Нямеччыны і Аўстрыі заводзілі ў сябе рыбную гаспадарку быўш. памешчыкі і сяляне Украіны, Польшчы і Латвіі.

Асабліва рыбная гаспадарка была пашырана раней у Варшаўскай, Віленскай, Валынскай, Горадзенскай, Кіеўскай, Келецкай, Курлянскай, Люблінскай, Петракоўскай, Радамскай і Седлецкай губэрнях, у якіх знаходзілася каля 90 проц. рыбных гаспадарак даваеннай Расіі.

На Беларусі буйных рыбных гаспадарак было 4; агульная плошча іх складала 1473 гэктары. Даходнасьць гэтых гаспадарак была каля 100 р.з 1 гэктара сажалковай плошчы.

Дробныя прамысловыя і сялянскія сажалкі не ўзяты пад увагу. Даходнасьць сялянскіх вадапойных сажалак значна большая (каля 250 р. з гэкт.),бо яны знаходзяцца сярод сяліб і ўгноеных палёў, адкуль яны маюць шмат пажыўных матэрый для корму рыб.

Можна з пэўнасьцю сказаць, што даходнасьць рыбнай гаспадаркі ў нашай рэспубліцы большая ад усіх іншых галін сельскай гаспадаркі. Вось чаму буйныя памешчыкі на сваіх землях рабілі сажалкі, якія аплачвалі ўсе расходы на гэта.

Гаспадарчае значэньне рыбнай гаспадаркі ў спускных сажалках павялічваецца яшчэ тым, што глеба дна сажалак багата пладародным глеем; у такім разе, пасьля спуску вады і апрацоўкі дна сажалак пад засеў с.-г. расьлін атрымоўваюцца вялікія ўраджаі.

Такім чынам, заліваючы і асушваючы зямельныя вучасткі, мы можам зрабіць вельмі выгодны пладазьмен, у якім ураджаі с-г. расьлін будуць чаргавацца з ураджаямі мяса рыбы.



Галіцыйскі карп з Жыткавіцкай гаспадаркі.

Але перш, чым займацца рыбнай гаспадаркай, трэба ведаць гаспадарчую каштоўнасьць кожнай пароды рыб. Рыбнае насельніцтва вадаёмаў Беларусі складаюць ласось, фарэль, сялява, карп, лешч, карась, лін, пяскар, чырвонапёрка, плотка, галавень, язь, рыбец, быстрак, белізна, ялец, акунь, судак, шчупак, сом, уюн, галец, шыпоўка, мінога, налім, асётр, угор і сьцерлядзь.

Прамысловае значэньне маюць толькі лешч, судак, шчупак, акунь, плотка, карп, лін, карась, сом, язь, налім, сялява, чырвонапёрка і галавень.

Усе іншыя рыбы сустракаюцца ў нас вельмі рэдка і ніякага значэньня ў рыбнай прамысловасьці ня маюць.

Адны рыбы кормяцца расьлінамі, чарвякамі і рознымі кузуркамі, якія жывуць у вадзе, а другія ў працягу свайго жыцьця амаль выключна ядуць другіх рыб. Да такіх належыць шчупак, акунь, сом, судак і іншыя.

Знача, каб поўнасьцю скарыстаць кармовыя запасы вадаёма, рыбавод павінен разводзіць мірных рыб.

З мірных рыб самай скарасьпелай зьяўляецца карп, якога ў Беларусі больш усяго і разводзілі. Гэта рыба на другі год жыцьця дасягае 1 кілёграма вагі. Карпа ахвотна купляюць на рынку. Акрамя карпа, можна разводзіць у нашых сажалках ліноў і карасёў; але гэтыя пароды ня так хутка растуць, як карп, а знача і менш даходны.

Пры прамысловых сажалкавых гаспадарках звычайна робіцца некалькі сажалак для розных мэт—*нерастовыя*, вырасныя, *выкормныя*, і *зімавальныя*. У гэтых гаспадарках можна разводзіць, узрашчваць і трымаць рыбу зімой.

У сялянскіх-жа сажалках можна толькі ўзрашчваць карпаў і весьці рыбную гаспадарку з аднагодным зваротам, пры якім вясной купляюцца ў якой-небудзь гаспадарцы гадавалыя карпы (вагаю 150—200 грам) і пушчаюцца ў сажалкі з разьлікам 500 штук на 1 гэктар, а ўвосень вылаўліваюцца. Да восені ў добрых сажалках яны дасягаюць 1 кілёгр.

Гэты спосаб самы сходны, бо гаспадару ня трэба рабіць зімавальных і нерастовых сажалак, але правесьці яго ў жыцьцё раней ня было магчымасьці, бо ня было дзе купіць пасадачнага матэрыялу.

Цяпер Наркамземам абсталяваны рыбаводныя заводы і школкі, у якіх жадаючыя заняцца рыбнай гаспадаркай могуць атрымаць карпаў і іншых цэнных прамысловых рыб усіх узростаў.

Такім чынам тое, што перашкаджала разьвіцьцю рыбнай гаспадаркі цяпер адсунута. Цяпер саўхозы, колхозы і сяляне Беларусі могуць з большай выгадай скарыстаць сажалкі і малацэнныя зямельныя вучасткі (тарфянікі, нізіны і балоты) пад рыбаводныя ўжыткі. **П. Тарасаў.**

# С.-г. хроніка.

*Злучныя пункты саўхозаў.* На злучпунктах саўхозаў у гэту вясну знаходзіцца жарабкоў 81, быкоў 212, кноразаў 94, бараноў 16.

*Ачыстка насеньня.* Саўхозы з сваіх машын організавалі пункты для бясплатнай ачысткі насеньня сялян. Усяго працуе машын:

| | | | |
|---|---|---|---|
| трыераў . . | 53 | трашчотак . . | 14 |
| сартовак „Трыумф“ | 74 | зьмеек . . . | 9 |
| арфаў . . . | 157 | | |

На ўсіх машынах мяркуецца ачысьціць 155 тыс. пуд. сялянскага насеньня.

*Абмен і продаж палепшанага насеньня.* К засеву сялянскіх палёў наступнай вясною саўхозы могуць абмяняць і прадаць такое насеньне:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Аўса . | 26650 пуд. | Канюшыны . | 1614 пуд. |
| Ячменю . | 5500 „ | Выкі, сэрадэлі . | 3234 „ |
| Жыта . | 71560 „ | Расады . . | 2 міл. |
| Пшаніцы . | 5890 „ | і прышчэп . . | 10200 шт. |

*Пракатныя пункты саўхозаў.* Для бядняцкіх сялянскіх гаспадарак саўхозы за нязначную плату будуць даваць на пракат свае машыны ў днёх:

| | | | |
|---|---|---|---|
| плугоў . . | 3273 | пружыноvак . . | 274 |
| барон звычайных. | 3058 | іншых машын . . | 2731 |

**Выданьне Наркамзема.** Адк. рэд. Зьм. **Прышчэпаў.**
Рэд. кол. { *Э. Русецкі. Шукевіч, А. Смоліч, Сьц. Тупяневіч.*